# РОДНЫЯ ГОНІ

— КНІЖКА ПЕРШАЯ. —

ВІЛЬНЯ. — САКАВІК — 1927 г.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны.
— Вільня, Людвісарская вуліца № 1. —

# ЗЬМЕСТ.

Цана 75 грашоў.

# РОДНЫЯ ГОНІ

МЕСЯЧНІК ЛІТАРАТУРЫ Й КУЛЬТУРЫ ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

| КНІЖКА I | АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Крывое Кола, 21. (Wilno, Krzywe Koło 21). | Падпіска на год. . 8 зал. На 3 мес. . . . 2 зал. Адна кніжка . . 75 гр. |
|---|---|---|



## Да Грамадзянства.

Беларускае грамадзянства і беларускі народ наагул жыве ў Заходняй Беларусі ў надзвычайна цяжкіх варунках. Нямаш чаго й казаць аб жыцьцю палітычным, усім ведамыя „свабоды“ ягоныя. Але і ўсялякае іншае жыцьцё ня ў лепшым палажэньню. Матар'яльнай нястачы, а то й проста голаду, адпавядае голад духовы й моральны. Апрача 4-х беларускіх гімназыяў нямаш жадных іншых (апрача патайных) школаў беларускіх. А ў школах польскіх беларускія дзеці ня вучацца, але мучацца й ходаюцца, каб абараніцца ад духовага ярма.

Але ў гэтую цяжкую часіну беларускі народ выказаў надзвычайную жывучасьць і сілу. Засуджаны сваімі непрыяцельмі на сьмерць, ён паказаў, што ўміраць ня зьбіраецца і пахаваць сябе ня дасьць. Наадварот, ён ад абароны перайшоў удачна ў наступ і пэўны перамогі свае сьвятое справы.

І перамога гэтая бяссумлеву прыйдзе, але ўмовалю дзеля гэтага ёсьць сваё духовае жыцьцё беларускае. Хто перастае жыць беларускім жыцьцём духовым, той выбывае з радоў барацьбітоў за вызваленьне роднага народу. Каб-жа

было духовае жыцьцё беларускае, яно, як і ўсё на сьвеце, павінна бязупынна расьці, разьвівацца. Найгалаўнейшым варункам дзеля развою духовага жыцьця ёсьць развой культуры. Культура для жыцьця душы ёсьць тым, чым паветра для жыцьця цела.

Заданьнем „Родных Гоняў“ і ёсьць прычыніцца да развою гэтага „духовага паветра“ — культуры беларускае. Пойдзем да свае мэты трыма дарогамі: 1) будзем старацца павялічыць лічбу людзёў, каторыя, даўшы ў месяц ня меней 10 зал., будуць сувыдаўцамі „Родных Гоняў“; 2) будзем пісаць у часопіс і 3) пашыраць яго. У гэтай траякай рабоце і просім беларускае грамадзянства памагаць нам. Але справа беларускае культуры павінна быць дарага ня толькі сьвядомым Беларусам, але і тым, што сябе дагэтуль за Беларусаў не ўважаюць, а такжа павінна быць яна дарага іншым народам, з каторымі мы разам жывем: Ліцьвіном, Паляком і Жыдом. Да ўсіх іх зварочуемся, каб лічылі нашую справу блізкой сабе, сваёй справаю і, хто чым дуж, памагалі ёй. Выдаючы часопіс літаратурна-культурны й аполітычны, ня робім розьніцы паміж кірункамі палітычнымі, і ўсе грамадзяне могуць быць як выдаўцамі так і супрацаўнікамі „Родных Гоняў“.

**Выдавецтва й Рэдакцыя.**

НАТАЛЯ АРСЕНЕВА.

# Люблю я сонца залатое...

Люблю я сонца залатое,
Люблю прыгожаю вясной,
Калі ўсё новае, сьвятое
Сьмяецца радасна за мной.

Люблю нябёс вясновых ласкі
І пацалункі ясных кос,
Што лашчаць дрэвы бяз указкі,
Што грэюць лісьцейкі бяроз.

Аджыў наш сад. Да сонца дрэвы
Галінкі цягнуць бы ў паўсьне.
Направа сіні цень, а ўлева
Усё ўсьміхаецца вясьне.

Цьвіце чарэмха і чарэшня,
Паненкай яблынка стаіць,
К ёй ветрык лашчыцца і песьня
Сьвятлу, вясьне ўвушшу зьвініць!

Вясна, вясна, дачка лятункаў,
Нясі сьвятло, нясі жыцьцё,
Нясі атруту пацалункаў,
Красуй вясна, кахай усё!

Любі усё, загрэй каханьнем
Жыцьцё зямлі, жыцьцё людзей,
Табе адкажа лес пяяньнем,
І людзі стануць весялей.

Цалуй лясы, ідзі гуляці
У палі, ў сады пагодным днём,
Кахай, кахай зямліцу-маці,
Палі яе, палі агнём!

1921 г.

* * *

Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны,
Чыстым золатам густа залоціць рабіны, —
І здаецца паветра густым і зялёным,
Як вада у вазёрах, зялёных ад ціны.

Гаснуць косы на вежах готыцкіх касьцёлаў
І, зьніжаючысь, шклы запаляюць агнямі.
Зоры — вочы малых засмучоных анёлаў, —
Мігацяцца у хмарах парваных над намі.

Час таемны, ня ноч і ня дзень, калі цені,
Цені ночы зьліваюцца з косамі сонца,
Калі хочацца раптам стаць на калені
І стаяць так бяз руху, маўкліва, бяз конца...

Ў гэты час аджывае у думках старое,
Успамінаюцца даўныя сэрца хваробы...
І так лёгка душою — вячорнай парою —
Зразумеці сусьветныя сумы й жалобы!...

1923 г.

А. БАРТУЛЬ.

## РУСАЛКІ.

Над балотам, над зялёным
Задрамала ўжо трысьцё
І лаза сьхілілась ціха,
Як замерла ўсё жыцьцё.

Месяц ясны сьвет кідае
З паза лёгкіх пёраў хмар,
У вадзе адбіта неба,
Край лятуценьняў і мар.

Пара белая ўспаўзае
І русалкаў карагод
Лёгка ймглою закруціўся
У шалёны вір і лёт.

То спадаюць, то ўзьлятаюць,
То імкнуцца чарадой,
Разьбягуцца над балотам,
То ўзноў круцяць над вадой.

І танцуючы ў паветры
Песьню ціха завялі,
Гукі крэплі і ляцелі
Над пpaсторамі зямлі:

„Мы русалкі, духі ночы,
Дзеці возераў, балот,
Круцім, ўёмся у прасторы,
Мы ня бачым перашкод.

Асака нам шэпча казкі,
Мы калышамся ў лазе,
Мы ня ведаем аб горы,
Мы ня чулі аб тузе.

Лёгка хваля нас падхопе,
Панясе у глыбіню;
Там крыштальныя палацы,
Там праводзім дзень па дню.

З рыбкай срыбнаю гуляем,
На ўздагонкі з ёй плывём;
Вадзянік нам бае казкі,
Так праходзе дзень за днём!

Зноў ўсплываем на паверхню,
З ляліяў вяночкі ўём,
Сваe песьні мы заводзім,
Аб жыцьці сваім пяём.

З лясуном мы пажартуем,
Наламаем мы бяроз,
Абальлём яго старога
Брыльлянцістай вадой рос.

Ён пагоніцца за намі,
Мы ўзьлятаем ў вышыню,
Хай стары вось пазлуецца —
Ён кахае цішыню.

Зарагочым мы вясёла,
Уторыць нам зялёны лес.
Кожны любіць весяліцца,
Нам ніхто ня йдзе ў разрэз.

Мы людзей не разумеем,
Іх жыцьцё адзіны сум,
Вечна нечага шукаюць,
Вечна поўны нейкіх дум.

Ў лятуценьнях, у тумане
Борзда іх праходзе век
Ў нейкім шуму, у змаганьні,
Жыве дзіўны чалавек.

Жыць часіну і то марна?
Трэба жыць і ўсім жыцьцём:
Закруціцца, усё забыцца
Так, вось як і мы жывём.

Дык што-ж думаць, мы-ж ня можам
Ні учым ім дапамогч,
Гэй! шалёна лепш закруцім,
Борзда коньчыцца ўжо ноч.

Песьня раптам абарвалась,
А русалкі панясьлісь:
То круцілі тут над момам,
То да зор узьляталі ў высь.

Белым воблачкам круцілісь,
Срыбнай ніткаю чаргой.
Зноў спадалі, зноў ўзьляталі
Над прасторам, над вадой.

---

## Бацьку (вечнае памяці).

Ў гадзіну цяжкую жыцьця
Ты кінуў ўсё, ўсяго адрокся,
Ты біўся з доляю ліхой,
Як рыцар паў, ў змаганьні змогся.

Ты думкай толькі жыў аднэй
І меў адну сьвятую мэту, —
Каб дзецям лепш калісь жылось,
Ты ім імкнуўся даць асьвету.

Дык памяць вечная Табе,
Цябе твой сын век не забудзе,
Твая магілка між бяроз
Наймільшым месцам яму будзе.

---

# ДОСЫЦЬ!

Звонкая медзь адазвалась,
Зімны мэталь, як аджыў.
Сьціха спачатку ударыў
І гук ўраз за ґукам паплыў.

Звоніць і голасам нудным
Гэй колькі суму нясе,
Песьню адчаю і жалю,
Скаргу-малітву пяе.

Што-ж гэта звону так нудна,
Скуль толькі ў гуках жуды,
Што-ж гэтак плачаш жалосна,
Хіба шмат маеш нуды?

Досыць сьлязьлівых ужо-ж нотак,
Трэба, як сталь, крэпкім быць,
Досыць пяяць аб нядолі,
Трэба лепш клікаць, будзіць!

Як дапамогуць нам просьбы,
Хіба ўжо ведаеш сам.
Дык дамагаймася лепей
То, што належыцца нам.

---

**У. Гр—віч.**

# На парозе 1386 году.

Высока й няпрыступна ў Крэўскім замку сьцяна, а Ягайлава старожа непадкупна. Закутаўшыся ў касматыя кажухі, ходзяць як дзень так ноч прысадзістыя фігуры ў круг сьцен і пільным вокам паглядаюць наўкола. Злыя вочы ярка блішчаць з-пад касматых шапак высокіх, ногі цяжка чмякаюць па ліпкай гразі, нямецкі меч прыкра ў тахт стукае па назе, але вартаўніка ня мучаць яны. Закінаўшы поўны стрэлаў стары калчан за плечы, соты бадай раз ідзе ён сягодня па адным і тым самым мейсцы.

Хто й адкуль ён? — Дарэмна пытацца, — аб гэтым ня ведае на'т хітры, крывадушны Ягайла, што паслаў людзёў гэтых сюды, сьцерагчы Кейстута й Вітаўта. Айчына іх там, дзе ім добра жывецца, пан і загадчык іх той, хто шчодра ім плаціць. За коўш хмельнага пахнючага мёду і бліскучы грашак верна служаць яны хоць каму. І сланяюцца яны па

сьвеце з месца на месца, абыйшлі ўсю Польшчу, былі ў Мальборгу, гулялі ня раз і па Маскоўшчыне. Агнём, крывёй, сьлязьмі значыцца гэтая сьцежка па сьвеце шырокім, плач і праклёны нясуцца за імі ўздагон, ад жальбы стогнуць лясы і трасецца зямля, але сэрца гэтых ваякаў ім няпрыступнае.

Знае аб гэтым і Ягайла і ў Крэва прыслаў ён іх не дарма, не дарма ён плаціць ім шчодра, а верныя слугі яго— Прокша, Кучук, Лісіца Жабянцяй і Мосьцеў брат — ня спушчаюць іх з свайго вока.

Кейстут, у абыйме заціснутай імі шорсткай вяроўкі, даўно ўжо пайшоў к богу прэдкаў. Цяпер сцерагуць яны поўнага сілы й гарту Вітаўта князя.

Вітаўт у палоне ў брата Ягайлы. Высокі й моцныя сьцены Крэўскага замку, а старожа непадкупная. А ўсё-ж такі ня сьпіцца Ягайлу. Вітаўтава імя ўладна лунае над „Літвою“ *), на ўспамін аб ім дрыжаць Трокі, Полацак, Горадзен, Берасьце... і навет Вільня.

Як мора ў буру, хвалюецца ўсё ў гаспадарстве Ягайлавым; яшчэ адзін магутны ўзьдзьмух ветру з чыйгось боку і хваля народнага гневу захлясьне й змые яго ў бяздонную пропасьць.

—„Дзе шукаць апоры, у чым найці ратунак?“... пытае сябе ён, ходзячы ўзад і ўпярод па вялікім пакоі Віленскага замку.

Глуха аддаюцца цяжкія крокі па хаце, на вагнішчы ярка гарацъ сухія дровы, сілючыся асьвяціць усё, што ёсьць у хаце. Дарэмны аднак жыляньні—не асіліць гэтаму агню доўгіх усіх ценяў, што густаляглі па кутох.

І пнуцца цені адзін за адным увысь і ўдоўж, кожную часіну дрыжаць яны і калышуцца, а з імі розныя думкі ціснуцца ў галаву Ягайлы, думкі грозныя, невясёлыя — як мары, ак сьмерць...

— „Кейстут ужо не стаіць на дарозе, але Вітаўт“... прагаварыў ён, і ўзноў зашагаў па хаце. „Пакуль жыў Вітаўт, не я гаспадар усемагутны Літвы й Русі. Ён, як нечысьць якая, стаіць на маёй дарозе навет і цяпер, седзячы ў Крэўскім замку ў палоне“...

— „Княжа мой найласкаўшы, што думаць доўга — Вітаўта скора й лёгка супакоіць: адно тваё князеўскае гаспадарскае слова і Вітаўт на заўсёды шчэзьне з дарогі“... пачуўся раптам голас у хаце.

Ягайла ўздрыгнуў і аглянуўся. Сярод хаты стаяў яго даўнейшы слуга Лаўрын Вайдзіла, а цяпер сваяк — родны брат швагры Ягайлавага.

— „Ведаю гэта“, адказаў яму Ягайла, „але што скажуць на гэта ўсе іншыя князі“...

— „Княжа, яны твайго голасу слухаць павінны, але ня ты іхняга“...

*) Літвой у старыя часы звалася Беларусь.

— „Князеўскі голас чуцен толькі тады, калі ёсьць сіла заставіць пакарацца гэтаму голасу... А дзе-ж мая сіла, дзе маё войска, з якім мог-бы змусіць усіх шанаваць мяне?“

— „А ці, як жыў Вітаўт, цябе, княжа, слухаюць лепі?“...

— „Прынамся няма буры, якая выла навокал пасьля сьмерці Кяйстута і чуць нас ня згубіла...

І Ягайла задумаўся ўзноў, а Лаўрын Вайдзіла, ня хочучы яго разгнявіць і спракудзіцца, выйшаў з хаты.

* * *

Вецер рагоча, вые і жаласна плача ў байніцах таўстых сьценаў Крэўскага замку. Холад нялюд лезе да людзёў пад адзежу, паўзе ў кожнаю хату; чалавека апанове страх перад усемагутнай прыродай; хочацца схавацца як найдалей у цёплы куток, каб не акалець у гэтую васеньнюю пару і ня згінуць.

У каморы цямнічнай гэтага замку на засланай мядзьведжай скурай пасьцелі сядзіць княжна Смаленская Ганна, жонка князя Вітаўта. Вачыма поўнымі сьлёз сочыць яна за мужам сваім, што ў цяжкой задуме ходзіць узад і ўпярод па каморы.

Смутна й крыўдна маладой княгіні сядзець. Ці думала яна, ідучы замуж за прыгожага слаўнага Вітаўта, першага й найслаўнейшага ваякі „Літвы“, што яна калісь з ім будзе сядзець у няволі ў вераломнага, трусьлівага і ўсімі пагарджанага Ягайлы, што яе сьвекар, слаўны Кейстут, згіне ад рук падасланых ім разбойнікаў?... А ці ня тое-ж самае чакае іх?...

— „Не, не!“... прагаварыла яна ціха сама да сябе. „Вітаўт за ўсякую цану мусіць стаць вольным, ён мусіць адамсьціць сьмерць свайго бацькі, нашу паняверку... мусіць змыць пляму з нашага народу і нашага роду!“

Вочы яе загарэліся агнём рашымасьці й веры ў свае сілы. Падпершы рукою сваю галаву, яна раптам задумалася і сьлёзы памалу пачалі зьнікаць з яе твару.

Доўга меркавала яна штосьці ў сваёй галаве. Часамі яна навет пачынала штосьці гаварыць, паказавала нешта рукамі, але за часіну йзноў сьціхала, каб аддацца яшчэ большым думкам.

Звольна, бяз сьпеху цячэ й сунецца час. Ён не сьпяшаецца й ня рвецца нікуды. Няма дзела яму да мукі й гора князя Вітаўта і Ганны княгіні; страх вераломства і дзікасьць Ягайлы яго ня пужаюць, ня вабяць, ня смуцяць. Паступкі ўсіх ён асудзіць і ацэніць, у вольным бегу выдасьць свой справядлівы прысуд і ў сэрцы народу сьлед розны пакіне.

Змучаны ходкай даўгою па кароткай каморы, Вітаўт прысеў на пасьцель і цяжка ўздыхнуў.

Ня доўга аднак аддыхалася князю.

— „Дайце мне волю, дайце мне меч!“... ускрыкнаў ён за часіну. „Я пакажу вам, дзе сіла і хто з нас радзіўся быць князям і вольнаму люду быць гаспадар!“...

Як сагнёны ў буру дуб малады ў мамэнт адзін горда й сьмела прастае свой стан і ў сіле й красе йзноў станавіцца ветру супроціў, так у мамэнт адзін падняўся з пасьцелі Вітаўт і вокам арліным заглянаў у ваконца малое.

— „Княжа мой мілы, ня там твой ратунак — ваконца за мала, а краты таўстыя і старожа ля іх ходзіць пільна... Ратунку шукаць ты павінен праз дзьверы“... пачуў ён спакойны голас княгіні Ганны ў сябе за плячыма.

— „Якім-жа спосабам, ці яны больш слабыя за гэтыя краты, ці старожа каля іх вартуе ня пільна?“... спытаўся Вітаўт, адвярнуўшыся да жонкі.

— „Пойдзем сядзем, аддыхні, раскажу табе ўсё, што прыдумала я ў галаве сваёй бабскай, можа што й з гэтага будзе карысна табе“...

Вітаўт паслушна пайшоў за жанчынай, узноў усеўся ён на пасьцелю і пільна й уважна пачаў яе слухаць.

Плян княгінін быў просты, а словы яе надта шчыры, каб ім не паверыць, каб яны не пранялі чыюсьці душу. І Вітаўт ім верыў.

Натхнёныя словы жанчыны, як дзіўныя лекі, цяклі яму ў душу, гаілі ўсе раны, дадавалі сілы, будзілі ўзноў надзеі на лепшую долю, на славу, на шчасьце...

І Вітаўт ажыў, узноў ускочыў з пасьцелі, уперад і ўзад захадзіў па каморы.

— „Добра гэта... усё гэта добра, але што будзе з табою, як я ўцяку, як ты тут адна застанесься?“...

— „Ня думай аб гэтым,—седзячы тут, ты й мне не паможаш і сам зьгінуць можаш... Будучы вольным, ты й мне скарэй волю здабудзеш, а так хто ведае, што чакае цябе... Ягайлу ня вер — успомні яго прысягу, якой заманіў ён цябе ў свой табар... успомні й бацьку свайго Кейстута“...

Нічога не адказаў Вітаўт жонцы на гэта. У цяжкім змаганьні паміж розумам і сэрцам хадзіў ён цяпер па гэтай каморы і важыў свой лёс.

Цяжка кідаць у небясьпецы жанчыну, якая дала так многа радасных часінаў, яшчэ горы цяжка ваяку гінуць у цеснай каморы, без мяча ў руках, не на борздым кані...

З дзьвюх бед чалавек стараецца выбраць сабе меншую; кожны ідзе па дарозе, якая суліць яму найболі надзеі і скорае шчасьце.

Вітаўт знаў ужо Ягайлу, знаў з горкага досьляду на сабе самым і долі бацькавай, чаго ён мог ад яго спадзявацца?...

— Ён падыйшоў да жонкі і, усё роўна як-бы разьвітуючыся, пачаў да яе прыглядацца. Пагляд гэты адчула жанчына сваім далікатным сэрцам. Страшна ёй стала аставацца

аднэй у гэтай каморцы, дзе кожнаю часіну чакаў яе невядомы лёс. Сэрца забілася й затрапятала, быццам хочучы сказаць, што яна ўжо відзіць яго апошні раз і ёй захацелася плакаць. Аднак, сабраўшы ўсе свае сілы, яна перамагла свой жаль, праглынула сьлёзы, што давілі яе, і, як бы ні ў чым ня бывала, спакойна спытала:

— „Ну што, рашыўся?“...

— „Але“...

— „Ну й памажы табе божа“ дадала яна ціха, і, падняўшы правую руку, заціснутымі ў кучу трыма пальцамі палажыла на яго галаву рытуальны знак усходняга хрысьцянства і пасьпешна адхінулася ў бок, каб муж ня бачыў сьлёз, што мімаволі навярнуліся ў яе на вачох.

За маленькім закратаваным ваконцам зловарожна завыў і заенчыў вецер. Жанчына ўздрыгнула і, быццам шукаючы сабе сілы й гарту ў гэтым дужым мужчыне, прыціснулася да яго ўсім сваім целам.

Раптам за дзьвярыма каморы пачуўся стук і звон адмыканых замкоў. Дзьверы з скрыпам адчыніліся і на парозе паказаліся дзьве высокія, здаровыя, русыя смаленскія дзяўчыны—слугі княгіні Ганны. Штодзенным сваім звычаям прыйшлі яны слаць пасьцелю княгіні й князю. Як толькі дзяўчаты пераступілі парог, дзьверы за імі з бразгам зачыніліся. Дзяўчаты, як і кожны дзень, засталіся на якісь час у князеўскай каморы.

Сягодня чамусьці дзяўчаты былі невясёлыя; якоесьці гора застыла ў іх на твары. Пільнае вока княгіні дагледзіла гэта навет і ў тым густым змроку, які што хвіліну то ўсё гусьцей і гусьцей засьцілаў камору.

— „Што з вамі красуні?“ . . . спытала яна іх.

„З намі нічога, але кругом ходзяць чуткі, што хітры вераломны Ягайла проці цябе, княгіня, і князя Вітаўта замышляе яшчэ больш штосьці нядобрае“... адказала адна з іх.

— „А вам нас шкада?“

— „Ці-ж ты, княгіня, нас аб гэтым пытаць яшчэ маеш?“

— „А ці хацелі-б вы памагчы князю ўцячы?“...

— „Загадай, княгіня ясная, ці ты князь—усё будзе зроблена, хоць бы за гэта нам жыцьцё аддаць прышлося“... адказалі дзяўчаты ня думаючы і вочы іх загарэліся агнём рашучасьці й веры ў свае сілы.

„Дзякую вам“ адказаў ім Вітаўт. „А ты Крывіцкі народзе, народ, які не здраджаеш мяне і ў гэтай каморы, ведай, што й я цябе ня здраджу ніколі... Калі лёс мне судзіў пазнаць яшчэ волю і даць мне ў рукі меч, я цябе ўзьвялічу й услаўлю; станеш ты ў красе й у сіле першы між народаў Усходу, а велічай і блескам сваім асьлепіш іх усіх!“..

* * *

Вецер вые й стогне. Ліпкі сьцюдзёны дождж з сілай хлешча па стрэхах і сьценах, паўзе за каўнер, мочыць бяз літасьці ногі. Цемра густая навокал, хоць выкалі вочы.

Прыкра ў такую пару быць на варце й сланяцца каля сьценаў замку з кута ў куток. Хоць-ба скарэй прайшлі дамоў служанкі Вітаўта. Тады хоць на часінку можна-б было схавацца кудысь пад застрэшак.

Але вось наастатку скрыпнулі дзьверы каморы, у якой сядзіць князь Вітаўт. З іх адна за аднэй, як заўсёды вольнай хадой, вышлі дзьве жанчыны і, кутаючыся ў шырокія хусткі ад наляцелага ветру, прайшлі моўчкі міма старожы.

Прывычная старожа да гэтых жанчынаў. Прыход іхні ў камору князя тут нікога ня дзівіць, а выхад мала трывожыць. Без агляду прапусьцілі яны іх міма сябе.

З бразгам зачыніліся дзьверы ў каморы і ў браме. У замку ўсё заціхла й заснула.

* * *

Сьпяць прысланіўшыся да сьцяны вартаўнікі ля каморы, дрэме й варта на вежах, нікому з верных Ягайлавых слуг і ў галаву ня прыходзіць, што той, каго пільнаваць ім так срога прыказана, ужо далёка за замкам.

Раптам сярод скавыту ветру і шуму дажджу пачуўся тупат конскіх ног і пад браму пад'ехаў пасланец Ягайлаў.

Пільная справа ня церпіць адкладу. Толькі што лёгшага спаць Прокшу паднялі з пасьцелі, разбудзілі й Мосьця.

Пры сьвеце лучыны чытаюць яны загад Ягайлаў і дзікая ўсьмешка на твар ім прыходзіць.

— „Будзе ад князя Ягайлы ўзноў нагарода“ думае кожны з іх.

Прачыталі верныя слугі пісьмо, узялі вяроўку і пайшлі ў камору Вітаўта.

Д а р э м н а ў с я р а д а с ь ц ь, д а р э м н а стараньне. На пасьцелі ў каморы ляжаць дзьве жанчыны — князгіня Ганна і служанка яе.

Шум, гам і трывога паднялася па замку; на ўсе бакі рассыпаліся людзі шукаць Вітаўта. Ні вецер, ні дождж ім ня страшны ўжо болі.

Усю ноч, як нячысьцікі якія, кружыліся з запаленымі смальнякамі ваякі па сьцежках і дарогах, каб назаўтрае мокрым і чуць жывым вярнуцца ў замак з пустымі рукамі.

* * *

Вітаўт праз пушчы й балоты йшоў зьбіраць новае войска на бой з крывадушным Ягайлам.

АНТОН НАВІНА.

# Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.).

(У пятыя ўгодкі сьмерці Яго)*)

Кожын пісьменьнік, кожын грамадзкі дзеяч, кожын чалавек агулам — гэта прадукт свае эпохі. Мы, прыходзячы ў сьвет, прыносім з сабой багатую спадчыну ад мінулых пакаленьняў, сьвядома ці несьвядома ўбіраем у сваю душу акружаючую нас сучаснасьць, сплаўляем усё гэта на горне нашае індывідуальнасьці і сынтэз мінуўшчыні і сучаснасьці, прапушчаны праз прызму нашага Я, пераказуем БУДУЧЫНІ.



Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.).

Пісьменьнік - поэта, як істота з асабліва чуткай і ўражлівай душой, мо ў яшчэ большай меры, чым звычайны чалавек, зьяўляецца адбіцьцём свае эпохі. Дык, падыходзячы да аналізу тае ці іншае індывідуальнасьці, таго ці іншага творства, мы, каб правільна зразумець і справядліва ацаніць яго, павінны добра пазнаць тыя часы, у якіх жыў і тварыў даны пісьменьнік.

Ядвігін Ш.—гэта прадстаўнік перадусім нашае спольшчанае краёвае інтэлігенцыі, невялікі зямляўласьнік з-пад Радашкавіч, дзе быў хвальварак бацькоў ягоных Карпілаўка. Ясная рэч, што перажываньні й настроі тае сфэры, у якой жыў і вырастаў Антон Лявіцкі, мусілі пакінуць свой сьлед на душы нашага пісьменьніка. Вось, мы і пазнаёмімся перадусім з эпохай Ядвігіна Ш.

— — — — — — — — — — — — — — —

Эпоха гэная — другая палова XIX сталецьця — гэта эпоха глыбокага духовага крызісу, пераломy ў настроях і ідэалёгіі нашае шляхоцкае інтэлігенцыі, у масе сваёй — спольшчанай.

Калі паўглядаемся на тое, якой духовай стравай жывілася нашая краёвая інтэлігенцыя ў першай палове мінулага сталецьця, дык абачым, што яна жыла пад магутным уплывам РАМАНТЫЗМУ. Рамантызм, як рэакцыя проці клясыцызму, проці панаваньня ў літаратуры тэмаў і сюжэтаў, запазычаных з старое грэцкае й лацінскае літа-

*) Скарочаны зьмест лекцыі, прачытанай 26 лютага 1927 г. ў Т-ве Беларускае Школы.

ратуры, з грэцкіх ды рымскіх народных твораў, — імкнуўся да ўсяго с в а й г о—свае мінуўшчыні, свайго народнага творства, сваіх уласных асаблівасьцяў—духовых і фізычных. Зусім натуральна, што ў межах Беларусі інтэлігенцыя, шукаючы мясцовага калярыту, мусіла зьвярнуць увагу на мову, творства і асаблівыя нацыянальныя адзнакі тутэйшае народнае масы — перадусім беларускага сялянства, прадстаўляючага галоўную масу люднасьці краю. А пры панаваўшым у пачатку XIX сталецьця адносным лібэралізьме, што меў свае карані ў уплывах высокіх лёзунгаў Вялікае Францускае Рэвалюцыі — аб Свабодзе, Роўнасьці й Брацтве людзей, — побач з літаратурным зацікаўленьнем беларушчынай мусіла збудзіцца й цікавасьць да беларусаў больш агульнага характару, як да асобнае разнавіднасьці племеннае, нацыянальнае. Лепшыя людзі таго часу, бачачы, як цяжка жывецца беларускаму сялянству пад панскім прыгонам, шчыра бедавалі над лёсам „мілых мужычкоў" і стараліся аказаваць на сучасьнікаў уплыў у кірунку больш людзкіх адносінаў да прыгоннага сялянства. Яны лятуцелі аб згодным сужыцьці вёскі з дваром, сялян — з панамі. Яны стараліся маральна падыймаць сялянства, узгадовуючы яго ў традыцыях вернасьці й любові да сваіх апякуноў-паноў. І яны, урэшце, думалі, што беларускае сялянства, кажучы славамі Рыпінскага, пры некаторым стараньні і культурнай працы сярод яго, „навучыцца ня толькі гаварыць і чытаць, але й думаць папольску", узмацовуючы гэтак „адзіны польскі народ". Дык спаміж краёвае шляхты выходзілі пісьменьнікі, якія пісалі пабеларуску, стараючыся зразумелай сялянам мовай — іх роднай — прышчапляць ім адпаведныя паняцьці маралі й справядлівасьці. На гэтым грунце тварыўся патроху й запраўдны беларускі патрыятызм, пакладаліся фундамэнты пад беларускую нацыянальную ідэю. На гэтым грунце вырас і Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч і цэлы рад пісьменьнікаў, што папярэдзілі Мацея Бурачка і падрыхтавалі яму шырокі прастор да працы.

Але ў д р у г о й палове XIX сталецьця здарыліся важныя падзеі, якія вельмі паважна адбіліся на настроях і імкненьнях перадусім шляхоцкае інтэлігенцыі ў Беларусі. У 1863 годзе выбухнула польскае паўстаньне, на якое пайшлі найлепшыя элемэнты спасярод гэнае інтэлігенцыі, — пайшла ідэалістычна настроеная моладзь. Сярод паўстанцаў, якія лятуцелі аб ускрашэньні Польшчы, апынуліся і такія адзінкі, як Кастусь Каліноўскі, каторыя выступілі з лёзунгамі самастойнасьці Беларусі й Літвы — знача, тых прастораў, што некалі складалі незалежнае беларуска-літоўскае гаспадарства. — Але паўстаньне, за якім не пайшлі народныя масы, удацца не магло: яно й было задушана царскім урадам, каторы жорстка расправіўся з учасьні-

камі паўстаньня. Гэтак найлепшыя, ідэалістычна настроеныя элемэнты спасярод краёвае шляхоцкае інтэлігенцыі або палеглі на палёх бітваў, або папалі ў Сібір — у катаргу, скуль толькі малая часьціна іх вярнулася дамоў цераз многа год. У выніку ўсяго гэтага, сярод тае часткі шляхоцкае інтэлігенцыі, якая ўхілілася ад удзелу ў аружнай барацьбе за вызваленьне Бацькаўшчыны з-пад панаваньня царскае Расеі, запанаваў непадзельна грубы эгоізм, запанавала бязыдэйнасьць. І польская — ці лепей: спольшчаная — шляхта ў Беларусі з таго часу адкідае ўсе рамантычныя ідэі аб працы для беларускіх сялян, ды пачынае арганізаваць свае сілы з выразнай мэтай барацьбы вылучна за свае клясавыя й нацыянальныя польскія інтарэсы — проці народнага руху, што тады пачаўся, выкліканага, з аднаго боку, скасаваньнем прыгону, з другога — вызвольным рухам сярод расейскае дэмакратычнае інтэлігенцыі, ведамым пад назовам „народніцтва“.

Трэба адзначыць, што ад 1861 году, калі пала ўрэшце паншчына, калі пачалася сацыяльная перабудова нашае вёскі, — беларускае сялянства пачынае патроху прабіваць сабе дарогу да сьвятла навукі. Нарастаюць новыя пакаленьні, якія зьяўляюцца ўжо вольнымі людзьмі і маюць магчымасьць свабодна йсьці па асьвету ў школы — ня толькі пачатковыя, але і ў сярэднія ды вышэйшыя. Усё часьцей здараецца, што сялянскія сыны пападаюць навет у недаступныя ім перш унівэрсытэты. А там ужо бурляць новыя — вольныя думкі, там ужо нарастаюць рэвалюцыйныя сілы, якія вядуць барацьбу з існуючым ладам, маючы на мэце здабыцьцё для працоўнага сялянства ўсіх народаў Расеі — „Зямлі й Волі“. І там — у расейскіх унівэрсытэтах — і наша спольшчаная шляхоцкая інтэлігенцыя пачынае падпадаць пад уплывы бунтарскага настрою, што абхапіў лепшую частку студэнцтва.

Гэтак у другой палове XIX веку сярод краёвае інтэлігенцыі ў Беларусі наагул мы бачым два магутныя ўплывы: адзін — нацыяналістычны польскі й клясава-шляхоцкі, другі — вызвольны-народніцкі, які не абмяжовуецца барацьбой за волю Польшчы, але імкнецца і да вызваленьня — палітычнага й нацыянальнага — беларускага сялянства. Апошні агартае галоўным чынам новых сялянскіх інтэлігентаў з расейскай культурай, якія й прыступаюць у 1884 годзе да выдаваньня сваей нелегальнай часопісі ў расейскай мове „ГОМАН“.

— — — — — — — — — — — — — — — —

Антон Лявіцкі з малых гадоў навязаў крэпкую сувязь з беларушчынай. І ня толькі затым, што ён жыў на зямлі Беларускай ды ад маленства чуў мову беларускую на-

вакол сябе ў бацькаўскай Карпілаўцы: Антон Лявіцкі мусіў пераняць беларускія сымпатыі ад сям'і Дунін-Марцінкевіча, блізкога суседа ягоных бацькоў. Бо-ж дачка „Бацькі беларускае драмы" вучыла Антона Лявіцкага граматы; бо-ж у доме яе ён чуў беларускія вершы Дунін-Марцінкевіча, дыхаў тэй-жа атмасфэрай, у якой жыў і тварыў аўтар „Сялянкі" й „Гапона". Але, ня гледзячы на свой беларускі дух, атмасфэра, у якой узгадаваўся наш поэта, была наскрозь шляхоцкая і сацыяльна варожая да сялянства. Ядвігіна Ш. гадавалі на „пана", прышчапляючы яму пачуцьцё „вышэйшасьці" шляхты над „мужыкамі", пачуцьцё пагарды да людзей, якія фізычнай працай здабываюць хлеб будны і сабе, і „паном"... І гэтае пачуцьцё не замерла ў ягонай душы праз усё пісьменьнікава жыцьцё.

У васьмідзясятых гадох мінулага сталецьця Антон Лявіцкі папаў у Маскву, дзе, як кандыдат на фармацэўта, слухаў лекцыі ў маскоўскім унівэрсытэце разам з другімі студэнтамі. Моладасьць і ўласьцівы ёй ідэалістычны настрой зрабілі сваё: Ядвігін Ш. зышоўся з радыкальнымі элемэнтамі спасярод студэнтаў, захапіўся рэвалюцыйным настроем і прыняў навет учасьце ў студэнцкіх разрухах, якія закончыліся масавымі арыштамі і высылкай студэнтаў з Масквы. Папаў у Бутыркі (вастрог) і Антон Лявіцкі — разам з групай менчукоў і случакоў. Сярод студэнтаў з Беларусі аказаліся ўжо й сялянскія сыны. — І вось, забраўшыся разам — у чужыні ды за кратамі, гэтыя дзеці Беларусі прыпомнілі, пачулі, хто яны. У сваіх „Успамінах" Ядвігін Ш. рысуе той надзвычайна цікаўны з псыхалягічнага боку мамэнт, калі — пасьля зборнага канцэрту, уладжанага заарыштаванымі студэнтамі, беларусы апынуліся ў сваёй камэры ды раптам зразумелі, што — пры ўсім сваім характве — пяяныя на канцэрце расейскія, польскія, украінскія, грузінскія і іншыя песьні былі для іх роўна чужыя і не маглі так прамовіць да іхняе душы, як прамаўлялі да душы расейцаў, палякоў, украінцаў, каўказцаў... І ўсплылі ім на памяць песьні родныя — беларускія. Усю ноч пялі, прыпамінаючы родны край, прыпамінаючы сваіх сярмяжных братоў... А ў выніку гэтага зацясьнілася сувязь паміж зямлякамі, ды стварыўся гурток, які навет распачаў быў друк беларускіх кніжак, ды выпусьціў у сьвет пераклад апавяданьня Гаршына „Сыгнал" (у 1891 г.).

Мо гэта і папхнула Ядвігіна Ш. да пісаньня пабеларуску? Ведама, што, вярнуўшыся да краю — у родную Карпілаўку, Ядвігін у 1893 годзе піша драму беларускую „Злодзей", зьмест якое вельмі красамоўна гавора аб тым, што навеяны Масквой радыкалізм як-быццам не знайшоў у душы паэты глыбейшага грунту. У драме „Злодзей"

нязвычайна ярка выявілася старая шляхоцкая ідэалёгія — ды навет не марцінкевічаўская, а да-марцінкевічаўская, няздольная роўна падыйсьці навет да літаратурных тыпаў пана й селяніна. Марцінкевіч, жадаючы згоды між дваром і вёскай, сьвядома ідэалізуе і пана і мужыка, ды абодвух стараецца пераканаць у магчымасьці й неабходнасьці такое згоды. Наадварот: у Ядвігіна Ш. ў драме „Злодзей“ мы бачым ідэальнага пана і — лжэклясычны „чорны характар“ мужыка. У душы апусьціўшагася ажно да зладзейства п'яніцы-мужыка аўтар не знайшоў ніводнае — ня то сьветлае, а навет проста людзкое рысы!

Так у першым арыгінальным творы Ядвігіна Ш. выявілася „шляхоцкая спадчына“, з якой ён і ўвайшоў у жыцьцё. Дый не ў адным толькі гэтым творы бачым сьляды яе: калі—гадоў цераз дванаццаць — Ядвігін Ш. зьвязаўся з „Нашай Нівай“ і пачаў стала працаваць, як аўтар беларускіх апавяданьняў і—пазьней—як літаратурны кіраўнік „Нашае Нівы“, дык і ў гэты пэрыад мы бачым у ягоных творах два зусім розныя ідэалягічна элемэнты: шляхоцкі і народніцкі.

Разгледзім хаця-бы зборнік апавяданьняў Ядвігіна Ш. пад агульным загалоўкам „Васількі“. Яркім выяўленьнем шляхоцкае ідэалёгіі тут будзе апавяданьне „Жывы нябожчык“.

У „ідэальнага“ пана працуе ў двары прыгонны селянін, які, ведама-ж, шчыра адданы „добраму пану“ і глыбака прывязаны да яго. У пана ёсьць сын і дачка; у „вернага хлопа“—сын. Надыходзе паўстаньне. Пан з сынам узбружаюцца і ў адну цёмную ночку выходзяць з дому, каб ужо ніколі назад не вярнуцца... Але „верны хлоп“ у такі мамэнт ня можа пакінуць „свайго пана“; ён разам з панам і панічом ідзе на паўстаньне і накладае галавой за нядамую і чужую для яго справу. Адыходзячы, ён дае свайму сыну-хлапчаняці загад: верна служыць усё жыцьцё паненцы, бараніць яе і яе маемасьці, як свае... І сын — па сьмерці бацькі—спаўняе ягоны загад: паміж верным служкаю й паненкай заводзяцца ідылічныя адносіны. Пасьля дзеннае працы, слуга праводзе вечары з паненкай, п'ючы гарбату і гуляючы з ёй у карты...

Ідыльля, якой запраўды ня бывае!

Аб спогадзе беларускіх сялян да паўстаньня, якога на дзеле таксама ня было, апавядае нам Ядвігін Ш. і ў сваёй адзінай вершаванай рэчы пад назовам „Дзед Завала“, — хоць, праўда, у форме даволі туманнай.

Вось з гэтымі праявамі шляхоччыны і б'ецца ў творах Ядвігіна Ш. той народніцкі ўплыў, які ён вынес з студэнцкага жыцьця. Мала таго: уплыў гэты йдзе да яго і з твораў найвыдатнейшага з беларускіх народнікаў—

Мацея Бурачка, „Дудкі“ й „Смыка“ якога Ядвігін Ш. ня мог ня ведаць. І можам сьмела сказаць, што—па-за пералічанымі вышэй творамі ў стара-шляхоцкім духу—творчасьць Ядвігіна Ш. па свайму зьместу зьяўляецца як-быццам пераказам у прозе таго, што даў Бурачок у вершах. І тут і там бачым мы абурэньне на панаваньне й зьдзек чалавека над чалавекам. І тут і там чуецца гарачы пратэст проці паніжэньня працы, якая корме ўсіх на сьвеце,— і тут і там вострая крытыка на адступнікаў ад свайго народу і на тую клясу, якая жыве дармаедам — з працы селяніна й работніка. І тут і там бачым пратэст і проці палітычнае няволі, якая тады панавала ў Расеі.

Такія матывы знаходзім у апавяданьнях Ядвігіна Ш. „Зарабляюць“, „Цырк“, „Рабы“, „Падласенькі“, дзе — пераважна ў алегарычнай форме—сустракаем пратэст проці пануючай на сьвеце сацыяльнай несправядлівасьці. Абурэньне, пратэст—гэта і ўсё. Але беларускі адраджэнска-вызвольны рух ня мог нешта будаваць адно толькі на пратэстах і нэгацыі: не, гэты магутны рух прадстаўляе барацьбу — вострую, непрымірымую—з усімі тымі варожымі нашаму працоўнаму народу сіламі, якія ў прабуджэньні беларускіх масаў бачылі пагрозу свайму панаваньню... Дык беларускія адраджэнцы ня толькі крытыкавалі, ня толькі пратэставалі, але і арганізавалі народныя масы дзеля змаганьня, клікалі масы да барацьбы. І тут разыйшліся дарогі нашых адраджэнцаў і Ядвігіна Ш.

Ядвігін Ш., пры ўсім сваім крытыцызьме, ня мог і не хацеў кінуць рукавіцу тэй клясе, з якой ён сам выйшаў і з якой быў зьвязаны моцнымі нітамі супольных традыцыяў, супольных інтарэсаў, супольнае псыхалёгіі. Лучылі яго з шляхоцкімі сфэрамі і асабістыя сувязі, якія яму не хацелася зрываць. Дый сярод барацьбітоў за адраджэньне й волю беларускіх сялян і работнікаў Ядвігін Ш. пачуваў сябе чужым: ніяк ня мог знайсьці з імі супольнага языка. Дык і ня могісьці з імі поплеч, ня мог зьліцца з імі ў адну сям'ю. А тыя—у свой чарод — ня мелі да яго поўнае веры...

Ядвігін Ш. востра перажываў гэткае свае асаблівае палажэньне ў беларускім руху. Ён мог-бы добра чуць сябе адно толькі сярод беларускага панства, калі-б такое існавала. І шукаў гэнага панства, і—здавалася—знаходзіў. Але і тут яго сустракала расчараваньне: бо-ж шчырасьці беларускае тамака ён не знаходзіў... Дык узьбіўся ўрэшце на нейкае палітычнае бездарожжа, якое і давяло яго пад канец жыцьця да аляксюкоўшчыны й балахоўшчыны.

— — — — — — — — — — — — — —

Рамантык у душы, Ядвігін Ш. бачыў, што ягоны рамантызм быў у заўсёднай супярэчнасьці з цьвёрдай штодзеннай барацьбой беларускіх працоўных масаў за сваё нацыянальнае й сацыяльнае вызваленьне. І часта крывёй сплывала сэрца ягонае, і раны глыбокія рабіліся на душы яго, якія—паводле ўласных слоў пісьменьнікавых — „можа залячыць толькі адна сьмерць“.

Дый сьмерць залячыла гэтыя раны запраўды. Бо, калі пяць гадоў назад Ядвігін Ш. паміраў у Вільні ад невылячальнае хваробы—сярод чужых людзей, аб ім ня ўспомніў ніхто з тых, з кім ён рабіў „палітыку“—дый палітыку варожую працоўнай Беларусі. Але над магілай яго зыйшліся ўсе лепшыя прадстаўнікі ідэйнага беларускага грамадзянства: усе яны прыйшлі аддаць апошнюю паслугу вялікаму Мастаку Слова.

Бо-ж у гэтым Ядвігін Ш. — запраўды вялікая сіла. Мастацтва яго—не ў тэндэнцыйных палітычных пісаньнях і фэльетонах, пісаных сьпярша парасейску, а пасьля і пабеларуску, ня ў спробах услаўленьня „добрых паноў“, а ў тым, што, стоючы як-быццам па-над народам, ён здалеў улавіць біцьцё сэрца гэтага народу і ў яркіх абразох пераказаць голас народу. А голас народу, душа народу чуецца ў роўнай меры як у сьмяхотных апавяданьнях Ядвігіна Ш. („Суд“, „Важная фіга“, „З маленкім білецікам“), так і ў бытавых абразкох („Гаротная“), і ў казках („Бярозка“, „Дуб-Дзядуля“, „Што сказаў певень“, „Чортава ласка“), і ў байках—алегорыях, каторыя ён разам з народам асабліва аблюбаваў. Народ гаворыць і тады, калі Ядвігін Ш. зачапляе агульна-людзкія пытаньні й балячкі, хоць і пераказуе падчас чужыя рэчы („Шчасьлівая“ і інш.),—бо аўтар падыходзіць да свае тэмы пасвойму—панароднаму,—так,—як падыйшоў-бы кожын сын вёскі. Ядвігін Ш. наагул свайго ўласнага, арыгінальнага творыць вельмі мала: ён толькі як-быццам падслухаў беларускага селяніна, праняўся духам ягоным і абразамі народнае мысьлі выяўляе народную душу. А робіць гэта так добра, што, ня гледзячы на глыбака ўтоены ў уласнай душы яго шляхоцкі сьветапагляд, ня чуецца ў яго фальшывых нотак, ані ненатуральнасьці. У гэтым—мера мастацтва Ядвігіна Ш.: з гэтага вынікае і тая сьвежасьць апавяданьня, і шчырасьць пачуцьця, і лёгкасьць формы, і багацьце мовы, чым так цэнны творы гэтага запраўды-ж першага – калі і не па вартасьці, дык храналягічна, — беларускага пісьменьніка - прозаіка. І пры ўсёй туманнасьці свае ідэалёгіі, далёкай ад ідэалёгіі тварцоў беларускага адраджэньня, Ядвігін Ш. заўсёды будзе займаць у беларускай літаратуры адно з пачэсных мейсц, як мастак слова, каторы здалеў адчуць і выявіць у прозе дух беларускага народу і беларускае прыроды.

Вільня, 26.II. 1927.

І. ДВАРЧАНІН.

# Аб годзе нараджэньня Фр. Скарыны.

У сувязі з 400-нымі ўгодкамі друку ў Беларусі ў беларускай інтэлігенцыі праявілася вялікае зацікаўленьне дабінавайцы гэтага сьвята—Фр. Скарыны. Ня гледзячы на такую фундамэнтальную працу аб ім праф. Владимірова („Докторъ Францискъ Скорина, его переводы, изданія и языкъ", СПБ., 1888), якая пазьнейшымі рэцэнзэнтамі справядліва названа найлепшым помнікам слаўнаму беларускаму гуманістаму (Огіенко інш.)—мусім усё-ж прызнаць, што мы аб Скарыне ведаем няшмат і што як біографія так і дзеяльнасьць Скарыны патрабуе ўважных студыяў. Дык трэба прывітаць новых дасьледчыкаў, ужо беларускіх, на гэтым полі. Маю тут на ўвазе перадусім артыкул праф. Шчакаціхіна: „Калі нарадзіўся Скарына" [1]) і Харэвіча: „Ф. Скарына і яго эпоха" [2]), якія падыходзяць да справы ўстанаўленьня году нараджэньня нашага гуманістага. Як ведама ўжо з рэцэнзыяў у зах.-беларускіх газэтах, праф. Шчакаціхін падыйшоў да разьвязаньня гэтага пытаньня вельмі орыгінальным спосабам. Як матар'ял дасьледаваньня ён узяў гэрб Скарынін, прыняцьце якога ў тыя часы мела сувязь з данымі астранамічнага характару, у даным прыпадку—зацьменьнем сонца.

Прыймаючы пад увагу зацьменьне 6 сакавіка 1486 г., прафэсар дапушчае ў вывадзе, што гэта ёсьць пэўне і днём нараджэньня нашага гуманістага. Харэвіч у ўспомненым артыкуле не згаджаецца з вывадамі праф. Шчакаціхіна, прылучаючыся да ранейшай думкі Владимірова, які дапушчае, як магчымы год нараджэньня—1490.

Вельмі шкада, што паважаны грамадзянін не падаў доказаў свае нязгоды, а проста ўказаў на большую праўдападобнасьць дапушчэньня Владимірова.

Паколькі артыкул грам. Харэвіча быў апошнім, і паколькі праф. Шчакаціхін ізноў-жа нідзе ня выказаўся аб гэтым артыкуле, выглядае, што большую рацыю мае грам. Харэвіч. Лічучы артыкул праф. Шчакаціхіна ў высокай ступені цікавым і важным, і амаль разьвязуючм справу, пазволім сабе сьмеласьць выказаць свой пагляд на гэтае пытаньне і падперці вывады паважанага прафэсара і іншымі аргумэнтамі.

Пачнём з разбору аргумэнтаў праф. Владимірова, на якіх толькі і апіраецца грам. Харэвіч.

У Владимірова доказы за 1490 г. такія: 1) У мэтрыцы Кракаўскага Унівэрсытэту, выданай п. Пташыцкім т. I, ліст

[1]) „Полымя", 1925 г, № 5, стар. 148—151. [2]) ibid, № 7, 138 — 152.

500-ь значыцца запіс: „Anno 1504, Commutatione hiemali... Franciscus Luce de Poloczko solvit 2 gr.“.

Владыміров, прыймаючы гэты запіс аб уносе грошай разам і за першы запіс на унівэрсытэт [1]), — адлічае адсюль толькі звычайныя 14 гадоў, якія былі патрэбны для паступленьня [2]) на унівэрсытэт, 2) уводзіць гэта ў сувязь з праўдападобным векам Скарыны на патрэце ў кнізе Сіраха 1517 г., дзе ён мусіў быць 27 гадоў і болей [3]). Вось і ўсё.

Праф. Шчакаціхін не адкідае думкі Владымірова. Уносіць толькі папраўку. Нам, аднак здаецца, што ў Владымірова няправільна ўзяты самы пункт выхаду. Няма ніякае гарантыі, што гэта быў першы запіс Скарыны і то пры паступленьні. Гэта стане малапраўдападобным, калі прыймем пад увагу іншыя даныя.

У другім месцы кнігі [4]) Владыміров падае выпіску з Мучковскага [5]), што Frant. de Poloczko Lithuanus у 1506 г. дастаў ступень бакаляра філёзофіі. Вось-жа, выходзіць па Владымірову, што Скарына кончыў факультэт за два гады.

Але гэта не магло быць. Курс філёзофскага факультэту ў Кракаве, як і ўсюды на Захадзе, цягнуўся роўна пяць гадоў, інакш і не дапускалі да бакалярскага экзаміну [6]).

Адным словам, каб быць дапушчаным да гэтага экзаміну, студэнт мусіў мець ня меньш, як 19 гадоў, а гэта няпрынята пад увагу Владыміровам.

Апроч таго, ня гледзячы формальнай немагчымасьці кончыць факультэт за 2 гады, ды ў 16 гадоў ад роду, у адносінах да Скарыны немагчыма гэтага дапусьціць з іншага боку. Да унівэрсытэту Скарына мусіў прыгатавацца, дзеля гэтага ён павінен быў прайсьці нормальную касьцельную школу, ды яшчэ пэўна-ж мець вялікія здольнасьці і да таго прыгатаваньне хатняе. Ведаем, што такія школы ў Беларусі ў часе Скарыны былі — ў Вільні і Троках [7]). Аднак, судзячы па мове Скарыны з дыялектычнымі асаблівасьцямі полацкімі, мусім прызнаць, што ён правёў дзяцінства ў сваім родным месьце. Аб існаваньні-ж касьцельнае школы ў Полацку ня маем вестак ніякіх.

Трэба думаць, што Скарына дастаў папярэднюю асьвету толькі хатнюю. Тады цяжка спадзявацца, што навет пры Скарыніных здольнасьцях з хатняе асьветы прайсьці лацінскія граматыкі, рэторыкі і г.д. і, лучыўшы ў унівэрсытэт, за два гады кончыць пяцігодні курс, ніяк немагчыма.

[1]) Владыміров: Доктор... стар. 52. [2]) Ib. стар. 44. [3]) Ib. стар. 44. [4]) Ib. стар. 51. [5]) Muczkowski: Statuta nec non liber Promotionum Philosophorum ordinis in universitate Jagellonica Cracoviae. 1849. [6]) Wiszniewski: Historya literatury polskiej, Kraków, 1854 г., т. IV стар, 269. [7]) Пічэта: Гісторыя Беларусі. 1924, т. I, стар. 131

Ня зусім правільна думка і адносна веку Скарынінага на фатаграфіі Гэта кожны скажа, хто бачыў вядомы патрэт Скарыны (копія вышэй успомненага). Тут Скарына бязумоўна выглядае больш як на 27 гадоў.

Куды правільней будзе, калі пры ўстанаўленьні году нараджэньня Скарыны выходным пунктам будзем лічыць ня 1504 г., а 1506, як год, калі Скарына здаваў свой бакалярскі экзамін і калі мусіў мець ня менш, як 19 гадоў. Дык 1504 год будзем лічыць годам якогасьці іншага запісу Скарыны ў унівэрсытэце, калі ён плаціў нейкія грошы.

Вось-жа ў такім прыпадку, адлічыўшы ад 1506 г. належныя 19 гадоў, будзем мець 1487 год, як год, вышэй якога не магло-бы быць факту нараджэньня Скарыны, а толькі магло быць ніжэй. Тады і век Скарыны на фатаграфіі куды бліжэй адказваў-бы праўднасьці і думкі аб папярэдняй асьвеце нашага гуманістага знашлі-б больш здаволючае разьвязаньне.

Прыймаючы пад увагу ўсё вышэй сказанае, трэба прывітаць дасьледаваньні праф. Шчакаціхіна, што так арыгінальна падыйшоў да справы і куды бліжэй да праўднасьці вырашыў пытаньне.

Зусім нічога ня маем проці, каб згадзіцца з паважаным прафэсарам — і дзень 6 сакавіка 1486 году лічыць устаноўленым днём нараджэньня Скарыны.

---

Д-р І.-П. ВАЙЦЯХОВІЧ.

# Рэлігійная літаратура пабеларуску.

Пашыраючыся, беларускі рух абыймае ўсё новыя галіны жыцьця. Цяпер ужо ня толькі над беларускай культураю працуюць людзі, што паставілі сабе мэтаю нацыянальна-політычнае й соцыяльнае вызваленьне беларускага народу, але й тыя, што маюць свае вужшыя, адумысловыя, мэты і прынамся народнага пытаньня так шырака, як першыя, не разглядаюць. Гэтак мы бачым, што зьяўляецца беларуская літаратура рэлігійная.

Як ведама, у іншых народаў рэлігійная літаратура мела значны ўплыў на хвармаваньне літаратурнае мовы. Дык цікаўна разгледзіць, якой з гэтага, языковага, боку ёсьць рэлігійная літаратура беларуская.

Пакуль што маем толькі пачаткі беларускае рэлігійнае літаратуры, але гэтыя пачаткі робяць вельмі добрае ўражаньне. На першым месцу тутака трэба паставіць пераклад **Паводле Лукі сьв. Эвангельле.** „*Компас*“ — *Лодзь. 1926.*

Перакладчыкі, людзі ўпрацаваныя ў беларускай літаратуры, дасканальна валадаюць беларускай літаратурнай моваю. Як відаць зь зьместу перакладу, а такжа як мне ведама ад аднаго з перакладчыкаў, пераклад зроблены з грэцкага тэксту. Перакладчыкі аднесьліся з вялікаю ўвагаю й стараньнем да свае цяжкое працы і трэба прызнаць, што выпаўнілі яе ўмела. Пераклад выдзержаны і робе добрае ўражаньне. Пры падробязным разглядзе перакладу абмылак і няточнасьцяў (апрача ніжэй паказаных дзьвюх) у зьмесьце не сустракаецца. Ёсьць, праўда, заганы языковыя, але яны ня шкодзяць зьместу і віна за іх падае ня гэтулькі на перакладчыкаў, колькі на нашую сучасную мову літаратурную і на яе практычную граматыку (і правапіс). Вонкавы выгляд кнігі таксама добры. Будзем спадзявацца, што перакладчыкі й далей будуць працаваць у выбраным кірунку.

Паводле кірыліцкага друку можна судзіць, што выданьне назначана Беларусам праваслаўным і наагул чытаючым кірыліцай (як ведама, беларуская інтэлігэнцыя ўсіх вераў чытае кірыліцай).

---

Можна было спадзявацца, што справаю перакладаў на беларускую мову і выданьня кнігаў сьв. пісаньня займецца само праваслаўнае духавенства. Але гэтак ня сталася. Духавенства гэтае ў сваёй большасьці дагэтуль ня вылечылася ад свае старое хваробы... Асабліва маючыя ўладу старшыя з іх палажэньнем няпрыязна адносяцца да беларускага руху і перасьледуюць тых сваіх малодшых сяброў, што маюць сумленьне й адвагу заступацца за справядлівыя дамаганьні беларускага народу і запраўдныя патрэбы праваслаўнае царквы.

Але навет ад гэтага старога духам і тэндэнцыямі духавенства мы не спадзяваліся таго, што прачыталі ў №№ 46 і 47 з 1926 г. „Воскреснаго Чтенія“. Тут прот. І. Самковіч у вартыкуле „Наши „благодѣтели“ выказаў поўнае няведаньне беларускае мовы. А. І. С. разглядае асобныя словы перакладу, пры гэты сам тут вельмі компромітуецца. У яго беларускае слова „паводле“ знача „близко“, „при“, „около“, тады як усім ведама, што гэтае слова азначае „згодна з чым“, і перакладчыкі, напісаўшы „Паводле Лукі сьв. Эвангельле“, ужылі яго зусім правільна. Калі-б трэ' было навукова выясьніць прычыну гэтага значэньня слова „паводле“, дык бяссумлеву яна ёсьць у ягонай прыстаўцы по— (па—). Праўда, што замест ужытага перакладчыкамі слова „павянчанай“ (І в. 28) трэба было ўжыць „заручанай“. Ня добра такжа, што слова „благодатная“ перакладзена этымолёгічна

„дабрадатная“ замест пераданьня сэнсу жывымі беларускімі словамі „ласкі поўна“. Паводле а. І. С. у сказе „І вучыў Ён у школах іх і ад усіх быў *слаўленъ*“ апошняе слова няправільна перакладчыкамі ўжыта, бо быццам белар. выражэньне „Ён мяне аславіў“ азначае пушчаную аб кім благую славу. Мне здаецца, што слова „аславіць“ Беларусы зусім ня скажуць, яго а. І. С. пазычыў з польскае мовы; а калі-б і сказалі, дык толькі ў значэньню дадатным (славіць=прославлять, слаўлены = прославляем, уславіць = прославить, аслаўляць = приветствовать). Узначэньню ад'емным ужываецца гэтае слова з часткаю *не* — (няслава, няславіць, зьняславіць). Далей а. І. С. кажа: „что авторъ хотѣлъ выразить словами „багаслаўлёны, багаслаўлёна“ и отъ какого корня онъ ихъ производитъ,—сколько хочешь думай— не дадумаешься“. А тым часам беларускі народ ведае значэньне гэтага слова і ўсюды яго ўжывае. Хворма яго ўтварылася гэтак: белар. „балагаслаўлю“ было рана выцісьнена ц.-сл. „благославлю“, а белар. „балагі“ ц.-сл. „благі“ (астачы блр. „балагі“ маем у слове „балазе“ і г. пад.); але „благі“ прыняло ў белр. мове значэньне адваротнае — „нядобры“, „ліхі“, дык тады й „*блага*слаўлю“ сваім „*блага*“ калола вуха і, раўнуючы із словам „Бог“, яго замянілі на *бага*слаўлю“. Падобне зьмененыя хвормы словаў ужываюцца і ў іншых літаратурных мовах, бо нямаш прычыны, чаму іх ня ўжываць. Слова „Ерузалім“ зусім добра перакладчыкі пішуць, так яно ўжываецца ў народнай мове і ў старых беларускіх памятках. Срогі „крытык“ ня ўдзержыўся, каб для свайго асуду ня выкарыстаць і абмылкі ў друку — „Почему Наимъ названъ НаІМ?“, хоць і дзяцё дагадаецца, што вялікае *І* тут з карэктарскага недагляду. Такую загану, як ужываньне ц.-сл. хвормаў некаторых імёнаў (Захарыя, Іоан) побач з беларускімі хвормамі імёнаў іншых (Ганна, Сымон, Хама) можам перакладчыкам дараваць; на гэта бяссумлеву былі свае прычыны (як у імені Іоан). Затое мыліцца а. І. С., калі думае, што Беларусы ня скажуць „Хама“, а толькі „Тамаш“. Адна й другая хворма гэтага грэцкага слова ўжываецца, бо яно прыйшло да Беларусаў дзьвюма дарогамі—пасярэдніцтвам баўгарскім і лацінскім. Паміж праваслаўнымі пераважае Хама з Фома (хацеў-бы я ведаць, які бацюшка ахрысьціць дзяцё іменем „Тамаш“?), дык няма дзіва, што перакладчыкі яго і ўжылі. А. І. С. прывёў яшчэ некалькі найчыстшых беларускіх слоў (вобуй, сьвядоцтва, чара, пахі) і відавочна з гэтых усіх „заганаў“ робе вывад, што Эвангельле перакладзена „волапюком“. Калі а. І. С. ўсё, што не маскоўскае, ёсьць запсаваным, дык гэтых „волапюкоў“ яму астанецца надта шмат.



Група беларускіх пісьменьнікаў з А. Уласавам па сярэдзіне. Сядзяць зьлева направа: Францішак Аляхновіч, Зьмітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік), Аляксандар Уласаў, Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі), Янка Купала (Ян Луцэвіч). Стаяць зьлева направа: Альбэрт Паўловіч, Чарот (Міхась Кудзелька), Галубок (Уладыслаў Голуб), Язэп Фарботка.
(З фатаграфіі 1920 г. ў Менску).

ПЛЕБЕЙ.

# Аб культурнай працы.

Культурная праца — гэта ёсьць акт самаўзгадаваньня.

Мо' хто папытаецца: што гэта значыць?

Дык трэба адказаць, што культурнае самаўзгадаваньне хаваецца ў глыбіні людзкое істоты. Чалавек, як разумная істота, бязупынна імкнецца да сьвятла навукі і хараства разумнага жыцьця, і гэтае імкненьне ёсьць тэй праўдаю, якая дае сэнс чалавечаму жыцьцю і сілу для развою яго.

Адкіньце гэтае імкненьне, у якім зьмяшчаецца праўда чалавечага жыцьця, і ад чалавека астанецца адзін толькі цень, ня маючы ў сабе нічога людзкога, сілаю рэчаў адсунены з дарогі жыцьця. Паглядзеце ў гісторыю і вы пабачыце, што навет тыя народы, каторыя былі заваявальнікамі, загінулі, бо ня мелі ў сабе праўды жыцьцёвай, якая разьвіваецца ў імкненьні да сьвятла і хараства разумнага жыцьця. Але ніякая сіла ніколі ня зьнішчыла ніводнай асобы — ня толькі народу — што мела ў сабе разумнае імкненьне. І калі навет варожая сіла губіла іх, дык яны, паводле эвангельля, ня ўміралі без таго, каб ня прыносіць плоду.

Дык калі мы прышлі да сьвядомасьці, што нам цяжка жывецца, што нас цісьне варожая сіла — трэба разьвіць у сябе акт разумнага самаўзгадаваньня. Трэба запаліць сэрцы народу тым агнём, што распале путы, бо сіла іх ня можа парваць, а агонь сам сабою іх нішча. І мо' зусім ня так цяжкая няволя, як яна нам здаецца ў нашай цямноце, бо пры разумным стане нашым магчыма знайсьці радасьць жыцьця ў працы й творцтве навет у найцяжшых варунках. Цемра хавае ад нас тыя радасьці, якія ня змогуць адабраць ад нас ніякія сілы. І калі мы знайдзем радасьць жыцьця, тады будзем ужо мець аснову, на якой можам цьвёрда стаяць у ходаньню за лепшую долю, бо сум і безнадзеяньне толькі быццам папіхае да ходаньня, але не дае яму грунту.

Такія мотывы патрэбы культурнага самаўзгадаваньня, але якія магчымасьці ягоныя?

Шмат каму здаецца, што каб вучыцца ці разьвіваць сваю веду ў культурным кірунку, — трэба прынамся скончыць гімназыю, а ўрэсьце ўнівэрсытэт і г. д. Але-ж гэта абмылка: разьвіваць сваю сьвядомасьць і ўзгадоўваць сваю думку магчыма без вялікіх навукаў, толькі абы было імкненьне да сьвятла, бо запраўды чалавеку дае культуру

ня вучэньне, але развой разумнага імкненьня ягонага. І калі гэтага імкненьня няма ў чалавека, дык, навет скончыўшы ўнівэрсытэт, чалавек астаецца культурна асталым; а калі ёсьць гэтае імкненьне, дык чалавек зусім малавучаны даходзе, як кажуць, самавукам да высокай культурнай роўні. Ведама, што калі асьвета вышшая лучыцца з гэтакім імкненьнем, дык рэзультаты бываюць вялікшыя.

Беларускі народ, як народ бедны, загнаны, ня мае шырокай магчымасьці здабываць навуку ў унівэрсытэтах, але затое, калі ён мае ў сабе ахвоту й здольнасьці да навукі, дык самое жыцьцё можа быць найлепшым унівэрсытэтам яму. З нашага народу ня можа выходзіць акадэмічных няўмекаў, але затое беларуская працоўная інтэлігенцыя можа даць асьвету тысячам самавукаў.

Вучыцца самавукам адразу вельмі трудна, але калі мы злучымся каля свае культурнай арганізацыі і зробім яе школай самавукаў, дык вучыцца будзе лёгка; пры гэтым можна зрабіці прадметам вучэньня кожную праяву жыцьця, абгавораваньня кожнае думкі, разбор кожнага мастацкага твору, асабліва карысным быў-бы ў апошнім прыпадку часопіс літаратуры й культуры. Трэба вучыцца, дзелячыся з сябрамі сваімі думкамі, уражаньнямі, увагамі. Магчыма, што мне ці табе прыйдзе якаясь думка, пакуль што няясная, ці, як мне здаецца, малаважная, але калі гэтую няпэўнаю, яшчэ канчальна нявыясьненую, думку аддам на суд сябром дзе колечы на зборышчы, дык яны, падхапіўшы, яе могуць разьвіць і высьветліць у вадну часіну так ясна, што я за цэлы тыдзень ня мог-бы гэтак абдумаць яе.

Дык вось як можна вучыцца. І калі мы здолеем бяз школьнага вучэньня навучыцца, дык здолеем без вялікіх высілкаў перамагаць.

Дык дабіваючыся як мага ўсіх ступеняў роднае школы, вялікую шкоду й крыўду з яе нястачы папаўняйма ўсялякімі спосабамі зашкольнай асьветы і самаўзгадаваньнем.

С. П.

# Да пытаньня аб асноўных прынцыпах навучаньня й узгадаваньня ў пачаткавай беларускай школе.

Гатуючыся да працы ў роднай школе, мы наўперад павінны разьвязаць пытаньне аб асноўных пэдагагічных прынцыпах, каторыя лягуць у васнову ўсяе нашае школьнае сыстэмы. Ці нашая школа зьявіцца паўторным выданьнем старое, т. зв. традыцыйнае школы, ці station ўка паверне на новы шлях, які адпавядаў-бы новым умовам жыцьця, новым вымаганьням пэдагогікі? Здаецца, доўгім разважаньням тут ня можа быць месца. Жыцьцё й навука вымагаюць ад нас новае школы, перабудовы ўсяе ранейшае нашае школьнае сыстэмы. І гэтаю новаю школаю, з новым падходам да ўсяе школьнае працы, можа быць ня накшая, як толькі **працоўная школа, кіраваная творчым прынцыпам навучаньня й узгадаваньня вучняў.**

Старая школа была школай мёртвага, сухога вучэньня напамяць, школай пасыўнага слуханьня й запамятаваньня; у старой школе панавала кніжка, каторая засланяла сабою жывую прыроду, запраўднае, такое багатае і цікавае жыцьцё; старая школа нівэлявала ўсіх вучняў пад адзін грэбень і не пакідала месца індывідуальнаму развою іхняму, свабоднаму выяўленьню іх творства. Дзеля таго й выходзілі з такой школы людзі кніжныя, ня жывыя, якія былі бясьсільныя за парогам школы тварыць жыцьцё, кіраваць жыцьцём. Школа ня толькі не памагала ім апрацаваць пэўны, хаця й болей-меней элемэнтарны, навуковы сьветапагляд, але часта не пакідала зусім ніякага сьледу ў іх жыцьці, у іх псыхіцы. Навет тыя навыкі, якія прышчэплявала школа, па выхадзе з яе, часта аказваліся ня маючымі ніякага практычнага значэньня: школьнае чытаньне не ўзгадоўвала нахілу да самаўзгадаваньня, клясавыя дыхтоўкі й пераказы чужых думак не апрацоўвалі навыку да самастойнага выкладаньня сваіх думак і пачуцьцёў.

Ці нам такая школа патрэбная цяпер? Калі само расейскае вучыцелства, з радоў якога і мы ўсе вышлі, яшчэ да вялікай вайны й рэвалюцыі засудзіла гэную школу на здачу ў архіў і прыняло прынцыпы новае працоўнае школы (на першым усерасейскім зьезьдзе аб пытаньнях народнае асьветы ў Пецярбурзе 23.XII 1913 г. — 3.I 1914), дык нам, сучасьнікам вялікіх падзеяў апошняга 10-годзьдзя, якое і ў тэорыі і ў жыцьці зрабіла перагляд усіх цэннасьцяў, якімі жыла дагэтуль Эўропа, і пагатове трэба паставіць

крыж на старой школе, і сьмела ўзяцца за будаваньне **новае працоўнае школы.**

Такое школы вымагае наш кіпучы, напружаны век, век перабудовы ўсяго жыцьця, век шырокае дэмакратычнае дзейнасьці, век калі ўсё грамадзянства заклікаецца да інтэнсыўнае й грунтоўнае соцыяльнае й нацыянальнае працы, век калі на біржы чалавечай ёсьць запыт толькі на людзей шырака ўсьведамленых, усебакова разьвітых, практычных, якія могуць орыентавацца ў усялякіх прыпадках жыцьця, людзей моцнае волі і здольных рук, наагул добрых рабачаёў і барацьбітоў за агульнае шчасьце й дабро.

Такое школы вымагае сучасная экспэрымэнтальная пэдагогіка, каторая толькі ў гарманічным — на аснове пляновае дзейнасьці — развою дзіцяці бачыць нормальны працэс узгадаваньня яго псыхічных і фізычных сілаў.„ **Працуючы вучыцца і вучачыся працаваць**“ — вось адзіная запраўдная мэтода, каторай павінен кіравацца ў сваёй дзейнасьці школьны вучыцель. Гэтая мэтода і пабудаваная на ёй сыстэма навучаньня й узгадаваньня толькі нам зьяўляюцца новымі. На Захадзе і ў Амэрыцы яны ня новыя. Шмат якія гаспадарствы (Фінляндыя, Францыя, Англія, Нарвэгія і інш.) ужо балей як 30—40 год увялі ў сваё школьнае законадаўства фізычную працу, як мэтоду ўзгадаваньня, а амэрыканская працоўная школа даўно ўжо перанясла клясу вучняў у школьны сад, гарод, майстроўню і г. д., дзе дзеці бяссумлеву вучацца ляпей, чымся ў старой школе з кнігаў.

Працоўнай школы вымагае, напасьледак, усё жыцьцё нашае беларускае, жыцьцё гаротнае, жыцьцё ў цемры й няволі-нядолі. Каб вызваліць народ з гэтае нядолі, каб вывесьці яго на шырокі шлях сусьветнае культуры, трэба нам, разумеецца, не ўзнаўляць старую кніжна-схалястычную школу з анэмічнымі і фізычна і духова дзяцьмі, а будаваць новую школу, якая была-б запраўднай „школай да жыцьця“, г. зн. гатавала-б людзей дзеяльных, моцных маральна й фізычна, настойлівых, багатых ініцыятывай і дазнаньнем з організатарскімі, творчымі здольнасьцямі, што ніколі ня трацяцца ў жыцьці, карысных сяброў колектыву і добрых грамадзян, верных сыноў Бацькаўшчыны, якія маглі-бы ў кожную часіну падняцца вышэй сваіх вузкіх эгоістычных інтарэсаў. Гадаваць такіх людзей зможа толькі **працоўная школа**.

Цяперака разгледзім бліжэй прынцыпы працоўнае школы і яе мэтоды ў прыраўнаньні з прынцыпамі й мэтодамі старое школы.

Старая школа вучыла толькі чытаць, пісаць і лічыць, і зусім ня ставіла сабе мэты **навучыць наагул працаваць**, не гадавала **ўменьня й любові працаваць** — працаваць сы-

стэматычна, упорна, настойліва, — ці то ў галіне мысьлёвае, ці ў галіне фізычнае працы. Старая школа ня пушчала вучняў далей парогу клясы і зачыняла вочы на ўсё, што дзеялася навакол. У лепшым прыпадку азнаёмленьне з прыродай, жыцьцём адбывалася на малюнках, модэлях, колекцыях, як - бы вучні гатаваліся не да запраўднага жыцьця, каб быць яго дзеяльнымі ўчасьнікамі, а быццам да якогась там музэю ці кунсткамэры. Ці-ж мала працы навакол хаця-ж бы і для дзіцячых рук? **Новая працоўная школа гэтае жыцьцё, гэтую чалавечую працу ставе ў цэнтры ўсяго школьнага навучаньня й узгадаваньня. „Ад жыцьця, праз жыцьцё, да жыцьця"** — вось дэвіз новае працоўнае школы. І што найгалаўнейшае — яна ўспрыймае веду, г. зн. жыцьцё, прыроду, працу людзкую не цераз адно мысьлёвае разважаньне, не адным пасыўным наглядаmoньнем, а пераважна, калі ня вылучна, шляхам дзейнасьці, шляхам запраўднае фізычнае працы. **„Ад дзейнасьці да веды"** — вось другі лёзунг мэтоды працоўнае школы. Дзейнасьць як у жыцьці, хаця-б і не заўсёды ў звычайным жыцьцёвым маштабе, з падходам вырослых людзей. Хай дзеці твораць часам у школе свае асобнае, дзіцячае, поўнае фантазыі, жыцьцё. З працягам часу, калі падрастуць, яны самі няўпрыцям зьменяць яго на запраўднае жыцьцёва-патрэбнае. Тут нам важны ня той ці іншы рэальны рэзультат дзейнасьці, а самы працэс. Важна даць працу, пэўны нахіл дзіцячым сілам, які адпавядаў-бы ведамым пэдагагічным вымаганьням. Фізычная праца такім чынам ёсьць у нас не як асобны прадмет, а толькі як пэдагагічны сродак, мэтода ўзгадаваньня. (Дзеля гэтага і працоўная школа ёсьць найзвычайнейшая агульнаўзгадавальная школа, а не якая-небудзь спэцыяльная, не майстроўня, не рамесьніцкая школа). **Толькі ў працэсе дзейнасьці ці працы дзейнага жывога нагляданьня жыцьця й прыроды магчымы нормальны развой дзіцяці.** Дзеля гэтага выводзьце дзяцей з клясы на шырокі прастор навакольнага жыцьця, рабеце іх учасьнікамі ці будаўнічымі гэтага самога жыцьця, ад малюнкаў у кнізе, ад відаў у стэрэоскопе ці кінэматографе пераводзьце да запраўдных, часам прыемных, часам жорсткіх „малюнкаў" вёскі, вуліцы, хаты, ставу, ракі, лесу, цагельні, смалярні і г. д.; ад калекцыяў, модэлеў і міньятур да запраўдных прыладаў і матар'ялаў працы, ад кніжных уражаньняў да запраўднага захопленьня ці спачуваньня запраўднаму чалавечаму шчасьцю ці нядолі. Узбагачайце дзяцей не адцягненымі паняцьцямі, сухімі няжыцьцёвымі тлумачэньнямі, а жывымі канкрэтнымі выяўленьнямі, жывымі хвормамі, колерамі, хварбамі, прастаровымі адносінамі конкрэтных прадметаў; не цераз кнігу, а толькі беспасярэднімі йдзейнымі нагляданьнямі й апрацаваньнем вучань зразумее іх,

прысвоіць і ўвядзе ў скарб сваэ душы. Не сковуйце іх схэмамі, праграмамі, правіламі. Дайце свабоду выяўленьням іх душы, нясеце болей даверу й пашаны дзіцячаму розуму й творству. **Як найбалей прастору пры ўсялякіх занятках і практыкаваньнях, для дзіцячай самадзейнасьці, актыўнасьці й працы!** Вось адзіная правільная мэтода школьнага навучаньня й узгадаваньня.

Гэтая — як бы мы яе назвалі — **творчая** (актыўная, працоўная) мэтода вымагае заўсёды ад вучня ўласнае ініцыятывы, самастойнага падходу да ўсяго, вымагае крытыкі, аналізы, праверкі пэўных палажэньняў уласнымі ўражаньнямі, нагляданьнем і разважаньнем. „**Вучы так, каб вучань сам быў тварцом уласнае веды і ўменьняў**“, апіраючыся ці на ранейшае свае дазнаньне, ці на раней апрацаваныя паняцьці і лёгічную сувязь між імі. Выходным пунктам хай будзе не азнаёмленьне ці аб'яcьненьне вучыцеля, што так характэрна было для старой школы, а **ўласнае дзеяньне, шуканьне, адкрыцьце, вынаход,** толькі палягчаны помачай вучыцеля. Вось працэсы, каторыя павінны стаць вагай (рычагом) усяе клясавае работы. Толькі набытая такім шляхам ве а становіцца моцным здабыткам вучня і складае запраўдны скарб ягонае душы. Тут мала ранейшае „нагляднасьці“, калі вучням паказвалі схэмы, пляны, малюнкі, модэлі і г. д. Пры гэтых паказваньнях вучань заставаўся пасыўным наглядальнікам, успрыймаўшым прадмет адным толькі зрокам ці вошчупам (мінэралы напрыклад). Найгалаўнейшае ў гэтым прыпадку пачуцьцё — мускульнае — тут учасьця ня мела. Тым часам толькі тады веда зробіцца поўным дасягненьнем вучня, калі ў працэсе яе прысваеньня прымець пераважнае ўчасьця праца рук, калі яна злучыцца з беспасярэднім дзеяньнем. Ці адным паказваньнем мэтра, аршына, вяршка і г. д. можна так узмацніць гэтую веду, як калі вучні, пад кіраўніцтвам вучыцеля, самі зробяць сабе з палак меры і з імі ў руках абмераюць сад, вуліцу, поле і абмераюць ня раз, а некалькі разоў пры адпаведных прыпадках? — Мне прыпамінаецца як у нас раней праводзілася чытаньне, напр. стацьці аб карове. І вучыцелем і вучнямі па некалькі разоў, на ўсе лады паўтаралася па кнізе і без яе, што карова мае чатыры нагі, адзін язык, два рогі, два вухі, дае малако, скуру, мяся, жуе жваку і г. д., паўтаралася, як бы адкрывалі невесьць якую Амэрыку, а аб тым не дагадваўся вучыцель, што ўсё гэтае яго вучні, якія амаль не з 5—6 гадоў бываюць пастухамі, ведаюць ляпей кнігі, ляпей за яго самога і могуць пераказаць рэчы куды цікавейшыя й карысьнейшыя, чымся толькі што вычытаныя з кнігі. Я зусім не хачу сказаць, што ня трэба чытаць з кнігі аб карове; я толькі хачу падчыркнуць, што гэтае чытаньне трэба абаперці на ўласны досьлед вучняў, трэба выклікаць з глыбіні іх душы ўсё багацьце ўлас-

ных нагляданьняў, трэба і кнігу, і жыцьцё, і псыхіку дзіцяці злучыць так, каб утварылася шырокае заўсёднае знацьцё— фундамэнт для будучых новых і новых досьледаў у гэтым кірунку.—Хай часам „сьвет“, створаны вучнямі, будзе больш-менш далёкі ад рэальнага, толькі некаторай падобнасьцяй яго, але важна тое, што ён **сам** тварыў, **сам адшукаваў**, **сам** камбінаваў усе патрэбныя элемэнты ці матар'ялы. Дзіцячаму вазу, санкам, хаце, карыту, сасе, вагону, параходу, самаходу і інш., што яны так любяць будаваць, разумеецца, будзе заўсёды далёка да праўдзівага ваза, санак, хаты і г. д., але тое тут мае цану, што да ўсяго дзіця **сама** дайшло, **само** даведалася аба ўсіх перашкодах і спосабах іх перамогі, **само**, каб ляпей ці хутчэй дапяці мэты, увайшло ў пэўныя суадносіны і з сваімі сябрамі і з сваімі блізкімі ці вырослымі, з якімі такім чынам знайшоўся агульны інтэрэс, агульная мова, узаемнае супрацаўніцтва і г. д. Ня мала на гэтым шляху будзе абмылак, расчараваньня, іншы раз і сьлёзаў, але будзе і радасьць перамогі ці творства, пачуцьцё гордасьці ад сьвядомасьці добра зробленае справы і жаданьне яшчэ і яшчэ спрабаваць свае сілы. Гэта і ёсьць запраўдная школа—з аднаго боку—творства, самадзейнасьці, самаадукацыі, з другога—вынасьлівасьці й настойлівасьці ў дасягненьні раз пастаўленае мэты. Толькі ў нашай школе могуць апрацоўвацца характары, барацьбіты за жыцьцё, якіх вымагае, асабліва ад нас, беларусаў, сучаснасьць.

(Далей будзе).

А. ЗЯНЮК.

# Зямельныя адносіны ў Беларусі і аграрная політыка канца XIX стагодзьдзя.

Акт 19.II—1861 г., каторы скасаваў прыгон, ёсьць аднэй з вялікіх рэформаў, якія спатыкаем у гісторыі людзкасьці.

Міліёны людзёў, за якімі дагэнуль не прызнавалася права асобы, якія былі пазбаўлены магчымасьці ўкладаваць сваё жыцьцё ў найпростшых яго праявах — у сям'і, у выбары заняткаў, у перамене месца пражываньня — на аснове гэтага акту рабіліся грамадзянамі. Адгэнуль яны ўжо ня толькі мелі абавязкі, але й правы.

Гэтым актам станавілася сялянства суб'ектам права.

Скасаваньне прыгону прачыніла вакно ў душную сялянскую хату, якая дагэнуль ня мела чыстага вольнага паветра.

Гэтае вызваленьне сялянства з-пад панскага самадуму вывела сялянскія масы з курных хатаў на шырокую дарогу грамадзкага жыцьця. Адгэнуль ужо сялянства будзе падымаць голас у падзеях гісторыі, у падзеях сацыяльнага ўкладу.

Вялікае панства, якое гэтым актам здало адну галоўную пазыцыю свайго фэадальнага ладу, ня дзеля таго згадзілася на гэтую ўступку, што раптам палюбіла сялян, бо і дагэтуль гэтага „хама" ня любіць, але прыгон шчэз дзеля таго, што пачуцьцёвы, псыхалёгічны стан прыцісьненага люду ўжо выгадаваўся ў атмасфэры дамаганьня гэтае рэформы, што на рэформу прышоў час.

„Хоць халодна, хоць галодна,
Холад, голад ніпачом,
Эх каб толькі мы свабодны,
На свабодзе аджывём!"

Вось як гаварылі прыгонныя сяляне. І ясна, чаму нястача свабоды, поўнае абязволеньне селяніна панскім самадумам змалку да сьмерці было найвялікшым злом, перад якім нічым здавалася сьцюжа й голад.

І акт 19.II—1861 г. даў сялянству гэную свабоду, зрабіў селяніна суб'ектам права. Гэта было праўнае вызваленьне сялянства.

Але каб карыстацца з праўнае свабоды, сялянскія масы мусілі мець эканамічнае забясьпечаньне жыцьця ў новых абставінах. А якраз гэтага эканамічнага забясьпечаньня сялянства не дастала.

Беларусь належа да краёў, дзе вырабіўся пераважны тып дробнай гаспадаркі і вельмі дробнай гаспадаркі. Дробнай гаспадаркай будзе такая, даходу з якое стае на пражыцьцё працуючай на ёй сям'і і бяз найміта.

Вельмі дробнай гасп. ёсьць такая, з даходу з якой сям'я пражыць ня можа і мусіць прырабляць на баку.

Сярэдні тып гаспадаркі—дзе сям'я працуе пры помачы наймовых сілаў і ўтрымлюецца з працы на зямлі. Тып вялікай гаспадаркі—гаспадар дае агульнае кіраўніцтва, сам не працуе і з даходу з зямлі пражывае.

Два мамэнты гістарычна ўплынулі на перавагу сярэдніх ці дробных гаспадарак:

1. Якая форма гаспадаркі была ў сярэднявеччы — чыншовая ці хвальваркавая.

2. Які быў спосаб спадкаемства.

Трэці мамэнт ужо зьвязаны з бытам селяніна: невялікая скаля ягоных патрэбаў і ўмеласьць прытарнавацца да сяродкаў пры забясьпечанасьці земляроба на чорны дзень.

Там, дзе пераважала чыншовая гаспадарка, пан быў заінтэрасаваны, каб чыншавік - арэндатар заплаціў яму арэнду, бо пан свае гаспадаркі ня вёў, там пан, уласьнік зямлі, не дазваляў сялянам дзяліць зямлі паміж сыноў па сьмерці бацькі, бо зьменшаныя гаспадаркі не давалі пэўнасьці, што аплоцяць чынш. — Там маем пераважаючы сярэдні тып гаспадаркі.

У іншых краёх паны вялі гаспадарку самі, земляробства аплачавалася, ведама, пры помачы прыгонных сялян— з якімі абходзіліся як з рабочай толькі сілаю.

Там ужо сяляне мелі малыя надзелы, бо пану невыгадна было аддаваць зямлю сялянам на карыстаньне, ён сам з яе карыстаў.

Там пан дазваляў дзяліць бацькоўскія надзелы, жаніць кожнага сына ў сям'і, каб мець як найболей рабочых рук.

У гэтых краёх маем пераважаючы тып дробнае і вельмі дробнае ўласнасьці. У Беларусі маем дробную й вялікую ўласнасьць. Да 1861 г. ў Беларусі вялася хвальваркавая гаспадарка, сяляне мелі дробныя надзелы і былі толькі рабочаю сілаю.

Пасьля 1861 г. сяляне дасталі так зв. надзельныя землі ў колькасьці недавольнай дзеля вядзеньня нормальнае гаспадаркі, прыймаючы пад увагу спосаб гаспадараньня, які быў экспансыўным [1]), а не інтэнсыўным [2]).

Сяляне дзяліліся на панскіх і казённых.

---

1) Экспансыўным завецца такі спосаб гаспадараньня, калі імкнуцца пашырыць урабляны прастор зямлі, мала зварочуючы ўвагу на палепшаньне самае зямлі.

2) Інтэнсыўным гаспадараньнем будзе такое, калі стараюцца павялічыць ураджай пры помачы лепшых спосабаў урабляньня пагноеньня зямлі.

На 1 рэвіскую душу прыпала паводле акту 19.II 1861 г.:

| ГУБЭРНІ | Казённ. сял. | Панскіх сял. |
|---|---|---|
| Горадзенская губ. | 3,6 | 2,7 |
| Віленская . „ | 5,9 | 2,9 |
| Магілеўская. „ | 5,7 | 3,6 |
| Віцебская . „ | 4,1 | 3 |
| Менская . . „ | 6,6 | 4 |

У лепшым палажэньні аказаліся казённыя сяляне, што сядзелі на дзяржаўных землях, але ўжо Кацярына II раздала амаль ня ўсі гэтакія землі з сялянамі сваім прыдворным за ўслугі рознага характару—да 1860 такіх сялян было мала. Па ліквідацыі паншчыны бачым рост насяленьня, якое ня мела куды выходзіць, надзелы паводле звычаю драбнеюць, голад на зямлю завастраецца і гэты працэс бачым дагэтуль.

Паводле статыстыкі Ходскага было:

| ГУБЭРНІ | Добра надзел. | | даволі надзеленых | | недаволі надзел. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | казен. | дворных | казен. | дворных | казен. | дворных |
| У Віленскай губ. . . | 26,% | 10,3 | 62,4% | 74,2% | 11,6% | 15,5% |
| „ Горадзенскай губ. . | 28,— | 1,9 | 47,6 | 52,6 | 24,4 | 35,5 |
| „ Віцебскай „ . | 13,8 | 2,5 | 48,1 | 47,1 | 38,1 | 50,3 |
| „ Менскай „ . | 38,7 | 37, | 4 | — | 57,3 | 63, |
| „ Магілеускай „ . | 38,7 | 34,7 | 44,9 | 48,1 | 16,4 | 17,2 |

Ужо гэтая табліца паказуе, што трэцяя катэгорыя сялян, якая пасьля 1861 г. адчувала нястачу зямлі, вельмі значная (63%, 50,3%), але да надзеленых няпоўна трэба аднясьці і другую катэгорыю, бо Ходскі ня прыняў пад увагу таго, што сяляне не дасталі сенажацяў і пасьцьбішчаў, а карысталіся імі з ласкі панскай на праве, якое пасьля сталася сэрвітутам. Але гэтая ласка панская давалася не дарма, а за адплату працай. Па 1861 г. ўведзена была кругавая парука (адказнасьць) за ўзнос падаткаў і гэта вельмі блага адбілася на эканамічным стане „вольнага“ сялянства, адказнасьць гэтая руйнавала вёску, бо аплачаваць мусілі працавітыя сяляне за сваіх суседзяўлянуцькаў, а гэта адбівала і ў першых ахвоту да працы.

Нястача сенажацеў заважыла на способе гаспадараньня, бо сяляне не маглі гадаваць патрэбнае колькасьці жывёлы, а тая, што была, ішла на плату падатку і на кругавую паруку. Нястача жывёлы адбілася на способе ўгнаеньня зямлі і на ўраджайнасьці яе.

Крэдыту, ведама, ня было.

За прыгону сялянства вяло г. зв. прыродную гаспадарку, усё патрэбнае выраблялася ў кожнай гаспадарцы. Калі-ж пасьля 1861 г. сялянства замест павіннасьці прыгоннай абложылі падаткамі і выкупнымі аплатамі, яно не магло выплаціцца і змушана было прадаваць адно, што мела, сваю рабочую сілу ў дварох, да якіх належала шмат зямлі. Трэба адзначыць, што пры надзеле сялян, двары захавалі сабе лепшыя землі, аддаючы сялянству, як слабшаму кантрагенту, горшыя, мала ўраджайныя вучасткі паводле прыказкі—

На табе нябожа, што мне нягожа.

Гэтак сяляне на падаткі мусілі йсьці ўжо як „вольныя“ да свайго пана і прасіць працы, бо інакш нігдзе не маглі здабыць грошаў на аплату падаткаў, за ўзнос якіх адказвалі ўсі за кожнага. Пан тут быў дужшым кантрагэнтам і адна сыстэма эксплёатацыі была заменена другою; сяляне знайшліся ў эканамічным вызыску ад паноў, якія рабілі ласку, плацячы паводле свае таксы за работу.

Эканамічна сяляне зусім чыста залежныя ад паноў, якія бяз прыгону й бізуна пануюць над сялянскім бытам і ёсьць валадарамі „вольнага“ найміта-селяніна. Гэты, калі не дастане магчымасьці прырабіпь у двары, астаецца зусім бязрадным і яму, як кажа Канапніцкая, дастаўшы свабоду, астаецца адно „свабодна павесіцца“.

Акт 1861 г., як гэта адцемілі дасьледаваньні эканамічна падняў паноў. У руках іх асталіся вялікія прасторы найлепшай зямлі і грошы, сьцягаваныя з сялянства.

| ГУБЭРНІ | У паноў зямлі. | | У сялян. |
|---|---|---|---|
| | 1887 г. | 1905 г. | 1887 г. |
| Горадзенская . . | 84,2% | 65,7% | 8,1 |
| Віленская . . . . | 89,5 | 70,3 | 4,4 |
| Віцебская . . . . | 82,4 | 60,8 | 5,4 |
| Магілёўская . . . | 82,3 | 60,8 | 8,4 |
| Менская . . . . | 93,4 | 76,9 | 1,4 |

Дворнае ўладаньне зьмяншаецца, але мала; усё-ж пераважная часьць зямлі ў руках вялікіх паноў. Яна ўрабляецца наймовымі рукамі, сельскім пралетарыятам.

Гэтая вялікая собскасьць (уласнасьць) пераважна вялізарныя прасторы, большыя за 1000 дзесяцін.

Даныя за 1905 год выяўляюць такую табліцу груціроўкі вялікае собскасьці:

| ГУБЭРНІ | Да 100 дз. | Двары ад 100 да 1000 дз. | Двары больш 1000 дз. |
|---|---|---|---|
| Віленская губ. . . | 15,5% | 35,3% | 49,2% |
| Горадзенская . . | 20,1 | 36,0 | 43,9 |
| Віцебская . . . . | 10,1 | 27 | 62,9 |
| Менская . . . . | 5,8 | 14,6 | 79,6 |
| Магілёўская . . . | 14,4 | 28 | 57,6 |

Як відзім, пераважаюць двары з лічбаю дзесяцін болей 1000, а ведама, што даходзілі яны і цяпер яшчэ даходзяць да некалькіх тысячаў дзесяцін. Пераважае ў Беларусі тып вялікае собскасьці і побач з ёю дробнай і надта дробнай собскасьці, як паказуе гэтакая табліца.

Па дасьледаваньнях стат. Ходскага ў 1905 годзе з лічбы абсьледаваных:

| | Ад 1—5 дз. | Ад 5—10 | Ад 10—15 | Ад 15—20 | Болі 20 |
|---|---|---|---|---|---|
| 213.905 гаспадарак у Менскай губ. | 11,7% | 61,9 | 13,8 | 6,9 | 5,7 |
| 198.000 гаспадарак у Магілеускай губ. | 9,9 | 68,2 | 17,5 | 2,0 | 2,4 |
| 100.000 гаспадарак у Горадзенскай губ. | 4,5 | 10,6 | 31,7 | 30,2 | 23 |
| 100 000 гаспадарак у Віцебскай губ. | 1,6 | 46.6 | 29,6 | 7,4 | 14,8 |
| 95.000 гаспадарак у Віленскай губ. | 3,3 | 28,5 | 29 | 25,2 | 14 |

Калі прымем, што ў Беларусі да групы гаспадарак дробных трэба аднясьці гаспадаркі да 15 дзесяцін, дастанем расклад дробных гаспадарак абазначаны ў рубрыках 1—3. Але, узяўшы пад увагу экстэнсыўнасьць гаспадараньня, нізкую культуру землеробства, да дробнай собскасьці нале-

жыць аднесьці аб'екты да 20 дз.; тады відзім, што Беларусь гэта тыповы край дробнай уласнасьці (рубрыка 1—4) пабач з вялікаю.

Значыцца, што ў 1905 г. зямельныя варункі ў Беларусі былі дужа ненармальныя і голад на зямлю адчуваўся шмат мацней чымся пасьля скасаваньня прыгону.

Вялікая ўласнасьць, кажа Ходскі, ёсьць пераважна ў руках паноў і купецкае клясы.

Гэта-ж нацыянальная меншасьць у прыраўнаньні з міліёнамі сялянскімі беларускімі, гэта кляса зрусыфікаваная або спалячаная.

Урад расейскі разумеў ненармальнасьць палажэньня і зямельнае пытаньне прабаваў разьвязаваць на карысьць павялічэньня сялянскага ўладаньня пры помачы акцый Сялянскага Пазямельнага Банку. Банк даваў даўгарочныя (даўгатэрміновыя) позычкі на зямлю, якая прадавалася сялянам.

Трэба прызнаць, што 65 проц. дворнае зямлі была задоўжана ў 1912 годзе ці то ў Сялянскім Зямельным Банку ці ў Шляхоцкім Банку, які йзноў меў мэту памагчы шляхце ўтрымацца пры зямлі.

За 6 гадоў сяляне купілі дворнае зямлі:

| | |
|---|---|
| У Віленскай губ. . . . . . . . | 2.581 дз. |
| „ Віцебскай „ . . . . . . . | 4.232 „ |
| „ Горадзенскай . . . . . . . | 9.916 „ |
| „ Менскай „ . . . . . . . | 40.707 „ |
| „ Магілёўскай губ. . . . . . . | 94.107 „ |

Акцыя гэтая хутка спынілася, бо цэны на зямлю падняліся і шмат дзе сяляне не маглі выплаціцца Банку, які выкідаў сялян з купленых вучасткаў.

Да канца свайго панаваньня ў Беларусі б. царскі ўрад ня меў аднак выразнае палітыкі ў зямельным пытаньні. Апрача банкавых пазык і Сталыпінскае рэформы аб хутарных гаспадарках, урад ніякіх палёгкаў сялянству не рабіў. Банк, даючы позычкі, засяляў Беларусь стараверамі, праводзячы гэта дзеля стварэньня маскоўскага элемэнту ў Беларусі, а, з другога боку, аслабляючы асяродкі старавераў, якія маглі мець уплывы на праваслаўных у Расеі.

Інстытут „сьвятое" ўласнасьці моцна быў баронены і гэтая палітыка ўраду трывала аж да вайны, калі і Сялянскі Банк спыніў сваю дзейнасьць.

Палажэньне сялян было благое, сумы незаплочаных падаткаў даходзяць да вялізарных лічбаў.

У 1906 г. ў Віцебскай губ. гэных недабораў лічылася болей як 1.200.000 рублёў.

Губэрнатары ў сваіх мэмарыялах аб бунтах сялянскіх, якія ўзьнікалі ў сувязі з сьцягаваньнем падаткаў, пісалі,

што голад пануе сярод сялянства і плаціць яно ня мае магчымасьці.

Адно заслугуе на ўвагу, што расейскі ўрад хутарную рэформу праводзіў на дагаднейшых чым цяпер для сялян варунках, даваў даўгарочную позычку за нізкі процэнт.

Але палажэньне сялянства беларускага было цяжкое. Мала памагала эміграцыя ў Амэрыку і ў Сыбір.

Сялянства паводле расейскіх законаў было клясай насяленьня, якая мела свае прававыя асаблівасьці.

Ад 80 г.г. мінулага стагодзьдзя некаторыя сялянскія дзеці пачынаюць здабываць асьвету і даходзяць навет да высокіх школаў.

Сялянства аднак гэтага мала адчувала; інтэлігенцыя і поўінтэлігенцыя, што выходзіла з вёскі, парывала лучнасьць з сялянствам, як сацыяльнай клясай, бо гэныя выхадцы з вёскі ўваходзілі да іншых клясаў люднасьці — „граждан“, дваранства ці мяшчанства і гэтым спосабам вёска, даючы свой інтэлектуальны здаровы матар’ял, узбагачавала толькі іншыя клясы, а само ад іх ня мела вялікай карысьці.

Вайна і расейская рэволюцыя мела вялізарны ўплыў на жыцьцё сялянства і на ўклад зямельных адносінаў.

Міліёны сялян апранутых у шынэлі ў працягу 4-х гадоў узгадаваліся ў атмасфэры, якая зварушыла консэрватыўную сялянскую псыхалёгію. Яны адчулі сваю сілу і сваю крыўду. На вайне шмат чулі аб вялікіх лёзунгах, за якія, як казала буржуазія, вялася вайна: справядлівасьць, права, лепшыя эканамічныя варункі і г. д. і г. д.

Грамады ваякаў-сялян перадумалі тое, што гаварылася ім аб „мэтах“ вайны, і ў акопах, як перад гэтым на хвабрыках, вырасла й выявілася новая сьвядомая свайго бяспраўя й зьдзеку сялянская маса.

Ужо да 1917 г. ў псыхалёгіі міліёнаў сялян-ваякаў выкрысталізаваліся дамаганьні сабе лепшай долі, а таксама ўпалі тыя фантазмы, якія дагэнуль панавалі над вёскай. Салдат зразумеў, што мала боскага ўва ўсёй царскай уладзе і панскай уласнасьці і таму не бараніў гэтага зямнога бога. Зразумеў, што ён мужык сіла і што як такі мае права на зямлю, як на адзіны варштат працы.

І вось чаму кліч „Зямля працоўнаму народу“ так ускалыхнуў сялянскімі масамі.

За 50 бяз мала гадоў вёска пазнала, што „холад і голад“, спрадвечна злучаныя з сялянскім бытам, робяць ілюзорнай тую свабоду, да якой імкнуўся прыгонны селянін.

Дамаганьні перадачы зямлі сялянству — гэта імкненьне да эканамічнага вызваленьня сялян і да канчальнага

зламаньня фэадальнага ладу, які панаваў і пануе ў Беларусі дагэтуль.

Ня толькі ў б. Расеі вычувалася ненармальнасьць зямельных адносінаў. Была яна і ў іншых краёх і эўрапейскія гаспадарствы прыступілі ўжо ў апошняй чэцьверці XIX ст. да ўрэгуляваньня зямельнага пытаньня.

Аднак у XIX ст. яшчэ ненарушаецца нідзе собскасьць на зямлю, калі паны і аддаюць землі, то заўсёды за яе дастаюць плату. Гаспадарства ўмаўляецца з панамі як із стараною.

Аграрная палітыка пры гэтым у XIX ст. рэдка праводзілася дзеля яе самае, найчасьцей прычынай былі матывы, якія нічога супольнага з зямельнай рэформай ня мелі.

Трэба адзначыць, што да 70 г. XIX ст. ўрады ня мяшаліся ў зямельныя адносіны. Пан і арэндатар, двор і вёска мелі права ўкладаць свае адносіны свабодна, самахвотнай згодай. Абедзьве стараны ўважаліся за аднолькавых кантрагентаў.

Але ведама, наколькі пан быў дужы кантрагент, на толькі арэндатар, вёска была слабой. І дзеля таго тут ня было свабоды ўмовы.

І вось на дарогу абароны гэтага слабога кантрагента выступае найперш Англія.

Там былі асаблівыя зямельныя адносіны. Англія тыповы край вялікае ўласнасьці, побач з малою.

| | | |
|---|---|---|
| 1/4 | усяе зямлі ў Англіі належыць да | 740 асобаў. |
| 1/2 | „ „ „ „ „ „ | 7.400 „ |
| 3/4 | „ „ „ „ „ „ | 58.200 „ |
| | Усіх зямельных уласьнікаў | 320.000 „ |

Фактычна лік уласьнікаў яшчэ меншы, бо статыстыка вялася па графствах асобна.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Шотляндыя. | 1/4 | усяе зямлі ёсьць собскасьцяй | 12 асобаў |
| „ | 1/2 | „ „ „ „ | 170 „ |
| „ | 4/5 | „ „ „ „ | 580 „ |

У Ірляндыі 1/2 зямлі належыць да 700 асобаў.

Зямля была здавана ў арэнду: У 1887 ў арэндзе было 0,8, у 1912 — 0,9 усяго прастору.

Асаблівую ўвагу зьвяртаюць адносіны ў Ірляндыі, дзе ўся зямля належала да ангельскіх лёрдаў, якія захапілі яе пасьля здушэньня сялянскіх бунтаў у XVII і XVIII стал., пасьля якіх Ірляндцы не маглі мець уласных грунтаў.

Арэнды былі высокія і паны выкідалі арэндатараў за няўзнос аплаты. У працягу 15 г. 1844—1859 было выкінута 50.000 арэндатараў. Край страшэнна згалеў, пачалася масавая эміграцыя ў Амэрыку і паменшаньне насяленьня.

Гэтак у 1844 г. Ірляндыя лічыла 8 міл. душаў.
„ 1901 „ „ „ 4,4 „ „

У выніку такіх зямельных адносінаў відзім бязупынныя сялянскія бунты. Ад 1870 г. ангельскі ўрад мяшаецца ў зямельныя справы. На аснове закону 1875 г. зьмяншаецца арэнда і нарушаецца свабода ўмоваў у зямельнай справе і ўрад не дапушчае самадыйнага падыйма арэнднай платы. Урад дае памогу арэндатарам на аплату арэнды. 1881 г. дастала памогу 130.000 сем'яў. Асобныя камісыі паніжаюць плату за арэнду.

Пры памозе крэдытнай ураду арэндатары выкупляюць землі на собскасьць. Згода собсьніка ня прыймаецца пад увагу.

Край ажывае, варочаецца эміграцыя і наступае незалежнасьць Ірляндыі.

Прусы, прыступаючы да рэгуляваньня зямельных адносінаў, мелі на ўвазе дзьве мэты: 1) зьмяншэньне безработных у местах і падачу рабочых рук паном а 2) павялічэньне нямецкага элемэнту ў пазнанскай правінцыі.

Урад купляў у паноў зямлю і даваў за плату малыя надзелы безьзямельным. Гэтыя, т. зв. Kleinleute мусілі, каб пражыць, працаваць у пана.

Аўстралія ў 1916 г. аблажыла прагрэсыўным пазямельным падаткам паноў такім спосабам, што паны—ангельскія лёрды—самахоць аддалі зямлю ўраду, ня маючы магчымасьці выплаціць падаткаў. Англія, занятая вайною, згадзілася на гэтую радыкальную рэформу. Дастаныя гэткім спосабам землі ў Аўстраліі аддаюцца безьзямельным на правох вечнае арэнды.

У часе вайны ўрады змушаны былі зламаць аснову лібэральнага ладу—свабоду ўмоваў і сам інстытут „сьвятой" уласнасьці—сьпярша ў адносінах да дамоў у мястох, а пасьля і да зямлі.

Зламаньне асновы гэтае ўжо будзе йсьці хутка ўперад, і новыя канстытуцыі паўсталых гаспадарстваў абмяжуюць уласнасьць на зямлю, прызнаючы гэтым неабходнасьць урэгуляваньня зямельнага пытаньня дарогай надзяленьня зямлёю безьзямельных і малазямельных.

---

ЛІТАРАТУРА: 1) W. Schiff: Archiv für Socialwissenschaft und Socialpolitik I u. II Heft 1921.
2) Ходскі: Земля и Земледѣлецъ, т. II. С.П.Б. 1891.
3) Статистическій справочникъ по аграрному вопросу. Москва 1917.
4) Пічэта: Беларусь. Менск.

# Захацела бабулечка ды пабагацеці.

## Народная песьня.

Запісаў Т. ТРЫЗНА ў Жодзішках Сьвянц. пав.




Захацела бабулечка ды пабагацеці,
Пасадзіла курычаньку, каб вывела дзеці.

Пайшло бабе на бяду, пайшло ёй на гора, —
Высядзела курычанька курчатачак трое.

Яшчэ, яшчэ ня сьвітала, сонца не ўсхадзіла,
А ўжо тая бабулечка курчатак пусьціла.

Як ззывала, як ззывала, — адно прытаптала,
На другое панырнула, на трэцяе ўпала.

Як прыехаў дзед із лесу і стаў ён пытаці,
— „Бабулечка старэнькая, што ў цябе чуваці?

„Бабулечка старэнькая, што ў цябе чуваці,
Чаму тваіх курчанятак дома ня відаці?“ —

А як узяў дзядулечка сухую дубінку —
І зьбіў моцна бабулечца галаву і сьпінку.

— „Бадай табе, дзядулечка, барада аблезла,
Як ты мяне укалечыў, я на печ ня ўзьлезла.

„Бадай табе, дзядулечка, права рука ссохла,
Як ты мяне укалечыў — чаго я ня здохла“.

# З беларускіх культурных арганізацыяў.

## Да ведама ўсіх сяброў Таварыства Беларускае Школы.

(*Высьвятленьне інструкцыяў*).

### I.

Да Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы даходзяць весткі з месцаў аб новых прыдзірках мясцовае адміністрацыі пры легалізаваньні Гурткоў Т-ва. Гэтак у Пружанскім і Косаўскім павеце старасты ня прыймаюць да ведама паведамленьняў аб сходах, на якіх сябры таго ці іншага Гуртка маюць выбіраць Управу Гуртка, апіраючыся на тое, што ў склад уваходзяць няпоўналетнія сябры, маючыя менш як 21 год — ня маючыя паводле польскіх законаў „праўных здольнасьцяў". Апіраюцца старасты таксама і на статут Т-ва, у пар. 10 у абзацы 3 якога сказана: „Сябрам запраўдным можа быць кожная фізычная, маючая праўныя здольнасьці, або юрыдычная асоба, што выплачуе 1,5% свайго месячнага заработку...". Такім чынам з гэтага параграфу статуту вынікае, што нялетнія (нявыраслыя) сябры—як ня маючыя праўных здольнасьцяў — ня могуць быць запраўднымі сябрамі Т-ва, але не сказана ў ім нічога аб тым—колькі гадоў мусіць мець запраўдны сябра. У інструкцыі так сама аб гэтым нічога ня кажацца, але затое ў дадатковай інструкцыі сказана ясна, што сябрамі Т-ва могуць быць асобы, маючыя ня менш як 18 год. Гэтым самым дадатковая інструкцыя кажа ясна, што запраўднымі сябрамі Т-ва могуць быць і асобы маючыя і менш як 21 год — нялетнія. На непаразуменьне гэта перш зусім не зьвярталася ўвагі, бо і што-ж тут такое, калі ў сябры Т-ва ўступяць і асобы ў веку ад 18 да 21 году. Але гэта заўважылі тыя, каму трэба, і на аснове гэтага пачалі рабіць прыдзіркі пры легалізацыі Гурткоў Т-ва.

Каб пазбавіцца лішніх прыдзірак з боку адміністрацыі пры легалізацыі Гурткоў Таварыства Беларускае Школы, трэба пазбавіцца гэтага непаразуменьня такім чынам: 1) Усіх сяброў, маючых менш як 21 год (як нямаючых праўных здольнасьцяў) вылучыць з ліку запраўдных сяброў, адабраць у іх сяброўскія білеты і пераслаць Галоўнай Управе; 2) ня прыймаць больш у запраўдныя сябры асоб маючых менш як 21 год і не выдаваць ім сяброўскіх білетаў; 3) усіх запраўдных сяброў нялетніх—маючых менш як 21 г.—залічыць сябрамі памагаючымі, што зусім ня будзе пярэчыць Статуту Т-ва, пар. 10 абзац 2-гі якога кажа, што: „Сябрам памагаючым можа быць кожная фізычная і юрыдычная асоба, што выплачуе на мэты Т-ва ня менш як 2 зал. ў год"—такім чынам і асоба, маючая менш за 21

год, і 4) на далей прыймаць у сябры Т-ва асобы, маючыя менш як 21 год, але як памагаючых.

*Увага 1.* Сябры памагаючыя замест білетаў, якія даюцца для сяброў запраўдных — дастануць ад Галоўнае Управы адпаведныя пасьведчаньні.

*Увага 2.* Сябры памагаючыя розьняцца ад сяброў запраўдных тым, што ня маюць права пастанаўляючага голасу і ня могуць быць выбраны ў кіраўнічыя органы Гуртkоў і іншых устаноў Т-ва Беларускае Школы, але могуць браць учасьце ў працы Т-ва і могуць быць прысутнымі на агульных сходах з дарадчым голасам.

Галоўная Ўправа Таварыства Беларускае Школы прызывае ўсе Гурткі да неадкладнага правядзеньня ў жыцьцё высьветленай тут папраўкі, каб адгарадзіцца такім чынам ад перашкод у працы з боку мясцовае адміністрацыі.

## II.

Мясцовая адміністрацыя ставіць перашкоды пры легалізацыі Гуртkоў Т-ва Беларускае Школы, апіраючыся і на тое, што ў Управы Гуртkоў Т-ва, а то і ў сябры Гуртkоў, уваходзяць асобы, што належаць да тых ці іншых палітычных арганізацыяў. Так робяць Дзісенскі, Лідзкі і інш. старасты, ставячы перашкоды ў культурна-асьветнай працы Гуртkоў Т-ва, як яны кажуць, дзеля таго, што ў склад Упраў Гуртkоў уваходзяць партыйныя асобы. Матывы перашкод яны таксама сіляцца абаперці на Статут Т-ва, § 10 якога кажа: „Таварыства стаіць вонках усіх палітычных партый і кірункаў: адзінай яго задачай ёсьць разьвіцьцё беларускіх школ і беларускае асьветы наагул". Вось-жа з гэтага параграфу Статуту не вынікае, што сябры Т-ва і нават сябры Упраў Гуртkоў ня маюць права мець тых ці іншых палітычных перакананьняў і належыць да палітычных партыяў і кірункаў і што яны, уступаючы ў сябры Т-ва, мусяць выступіць з партый і адрачыся сваіх палітычных перакананьняў. Падобная вымога была-б зусім бессэнсоўнай, бо ў здаровым, культурным гаспадарстве ўсё грамадзянства мае быць арганізаванае й сьвядомае палітычна; такім чынам кожны грамадзянін належыць да таго ці іншага палітычнага кірунку і прыймае жывое ўчасьце ў усім дзяржаўным і палітычным жыцьці гаспадарства. Але побач з арганізацыямі палітычнымі існуюць арганізацыі культурныя, у якія ўваходзяць тыя-ж грамадзяне — з рознымі палітычнымі перакананьнямі. Дык зусім няма падстаў на вымаганьне, каб у культурна-асьветныя арганізацыі ўваходзілі людзі беспартыйныя, якія-б ня прылічалі сябе да таго ці іншага палі-

тычнага кірунку. Дзеля гэтага вымогі мясцовае адміністрацыі, скіраваныя на Гурткі Т-ва Беларускае Школы, каб не ўваходзілі ў іх людзі партыйныя, зьяўляюцца несправядлівыя, бо беспадстаўныя. Іншая рэч, што апалітычныя культурна-асьветныя арганізацыі ня могуць займацца палітыкай, вясьці палітычную работу; тады-б яны выходзілі з рамак статуту і адхіляліся-б ад сваіх запраўдных мэтаў. У такім прыпадку мясцовая адміністрацыя мела-б поўнае права ўмяшацца ў такую культурную арганізацыю і скіраваць яе дзейнасьць у належны кірунак.

Падаём усё вышэй сказанае да ведама ўсіх Гуртkоў і сяброў Т-ва Беларускае Школы, каб ведалі яны, як кіравацца ў сваёй працы і што казаць мясцовай адміністрацыі на яе беспадстаўныя вымогі, каб у Гурткі Т-ва не ўваходзілі асобы партыйныя.

З другога боку, выказуем сваё пажаданьне, каб усё-ж у Управы Гурткоў Т-ва не ўваходзілі актыўныя палітычныя працаўнікі.

Пажаданьне гэта адносіцца так сама да Загадчыкаў бібліятэк-чытальняў і Народных Дамоў.

III.

Вельмі часта так сама асобныя Гурткі зьвяртаюцца з пытаньнем да Галоўнае Управы, як зрабіць перавыбары Управы Гуртка. У Статуце Т-ва кажацца, як выбіраць Управу Гуртка пры арганізацыі яго. Так сама праводзяцца і перавыбары Управы. Трэба пасласць паведамленьне старасьце аб агульным сходзе, у якім азначыць дзень сходу і парадак дня. У назначаны дзень склікаць агульны сход, на якім разам з вырашэньням інш. пытаньняў зрабіць перавыбары Управы Гуртка. Аб складзе новай Управы Гуртка паведаміць Галоўную Управу і павятовага старасту, указуючы дакладны адрэс нова-выбраных сяброў Управы.

Так сама трэба паведаміць Галоўную Управу, калі хтось з сяброў Управы Гуртка па тых ці іншых прычынах выбывае з Управы, указаўшы прычыну чаму выбывае, і хто будзе заступаць выбыўшага сябру.

## Да грамадзян, што падалі дэкларацыі на Урадовую Беларускую Школу.

1. Грамадзяне! Ужо пачынаецца тое, што было летась (у мінулым годзе). Ізноў школьныя інспэктары з войтамі або з паліцыянтамі езьдзяць па вёсках і вымагаюць ад бацькоў, каторыя падалі дэкларацыі на ўрадовую беларускую школу, узяць назад дэкларацыі або падпісаць якіясь пратаколы. Грамадзяне! Пакажэце сваю грамадзкую сьвядо-

масьць, разьбірайцеся добра ў тым, што робіце! Калі Вам дадуць падпісаць якуюсь незразумелую паперку, то паклічце чалавека больш граматнага, якога добра знаеце. Няхай ён Вам растлумачыць, што гэта паперка азначае і тады ўжо будзеце бачыць ці расьпісавацца на ёй ці не. За подпісы на дэкляарацыях ня бойцеся. Вы паступілі так, як вымагае закон аб школах і як дыхтавала Вам Ваша бацькаўскае сумленьне.

Памятайце, што калі Вы возьмеце назад дэкляарацыі, то адбярыцё ў сваіх дзетак магчымасьць вучыцца ў сваёй роднай мове.

Ня йдзеце так сама на ашуканствы розных панкоў ды паўпанкаў, якія Вам будуць прапанаваць падпісаць дэкляарацыі на розныя перадшкольныя, пазашкольныя й дапамагаючыя школам установы, і пад гэтым усім крыюцца дэкляарацыі на ўрадовую польскую школу замест беларускае—як гэта было ў в. Мойсічах Маладэчанскага пав. Там знайшоўся якісь панок Клімовіч, які, хочучы ўняважніць некалькі дэкляарацыяў, каб не хапіла да кампвлекту—стаў угаваравць малапісьменных сялян падпісаць дэкляарацыю на філію школы для малых дзяцей. Некаторыя сяляне ня знаючыя польскае мовы, не маглі разабрацца, што гэта былі за дэкляарацыі, і падпісаліся. Аказалася, што гэта былі дэкляарацыі на польскую ўрадовую школу. Даведаўшыся аб гэтым, яны зараз-жа пашлі да Клімовіча і чуць ня сілай адабралі падпісаныя дзякуючы ашуканству дэкляарацыі. Але ня ўсім ашуканым так удалося. Клімовіч, даведаўшыся, што справа дрэнь, уцёк у Маладэчна, дзе здаў застаўшыяся ў яго дэкляарацыі школьнаму інспэктару. Цяпер сяляне вёскі Мойсічы маюць шмат клопату, бо калі ня хопіць дэкляарацыяў да кампвлекту — дык скажуць, што ў в. Мойсічах беларускае школы быць ня можа. Так ашукаваюць нашых сялян розныя паны й паўпанкі. Дык будзьма асьцярожнымі й разважнымі! Ня даймася ўзяцца на вудачку розных прайдохаўашуканцаў!

2. Калі каго ўжо змусілі забраць назад дэкляарацыі, як гэта было ў Маладэчанскім павеце, гдзе езьдзіў пан інспэктар з войтам і палохалі нават Лукішкамі, напішэце пратакол і зазначце, што ўзялі назад дэкляарацыі толькі пад прымусам, а што ад школы сваей роднай ніколі не адмовімся і не адмаўляемся. Пратакол перашлеце ў Галоўную Ўправу Т-ва Беларускае Школы ў Вільню. (Вул. Сьв. Анны 2).

**Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы.**

# Культурныя навіны.

**Звальненьне беларускіх вучыцялёў.** Нядаўна Беларуская Гімназыя ў Вільні дастала ад Куратара паведамленьне, што 5 вучыцялёў ейных „з прычыны нелёяльнасьці“ да Польшчы маюць быць звольнены ў канцы сёлетняга школьнага году. Маюць быць зволнены: С. Паўловіч, Міхалевіч, І. Савіцкі, Сіняўскі і М. Заморын. У Радашкаўскай гімназыі беларускай маюць быць звольнены ў канцы году за тую-ж „нелёяльнасьць“ 3 вучыцялі. Апрача І. Савіцкага, каторы ёсьць Старшынёю Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, ніхто з вышменаваных вучыцялёў жаднай палітыкаю не займаецца.

Адначасна беларуская сяміклясная школа ў Горадне дастала паведамленьне, што з канцом сёлетняга школьнага году з яе „за нястачу кваліфікацыі“ звальняюцца ўсе вучыцялі.

Усё бяз вынятку беларускае грамадзянства гэтымі звальненьнямі да глыбіні душы абурана і бача ў іх жаданьне польскае ўлады зьністожыць і астачу беларускіх школаў.

**У Т-ве Беларускае школы ў Вільні.** Па ўсім краі, а асабліва ў Вільні, Т-ва Беларускае школы ёсьць высака культурнай арганізацыяй беларускай. Цэнтральны Гурток Т-ва ў Вільні мае харошы народны дом (вул. сьв. Ганны, № 2) з вялікай заляй на лекцыі, концэрты і інш. і з чытальняй, дзе ёсьць розныя газэты й часопісы. Кожную суботу ў 7 гадз. увечары, а часамі і ў нядзелю, у Народным Доме бываюць лекцыі.

**40-вые ўгодкі радзінаў Алеся Гаруна.** 12 сакавіка сёлета ў саракавыя ўгодкі радзінаў поэты Алеся Гаруна (Аляксандра Прушынскага) ў Цэнтральным Гуртку ў Вільні Т-ва Беларускае Школы была сьвяточная вечарына: д-р І. Дварчанін прачытаў лекцыю на тэму: „Эволюцыя ў ідэолёгіі Алеся Гаруна“; пасьля лекцыі Л. Мэнке, А. Бартуль, Залкінд, Мацейчык, В. Грышкевіч і А. Зянюк асабліва добра прачыталі некаторыя вершы Гаруновы, каторыя й закрасілі сабою ўвесь вечар.

**10-тыя ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча** прыпадаюць на 25 мая сёлета. Беларускае грамадзянства ў Вільні гатуецца належна ўшанаваць памяць гэтага вялікага беларускага мастака слова.

**Беларускае Выдавецкае Т-ва** выпушчае дзьве бібліотэкі: адну для моладзі, а другую для выpraслых. Наўперад будуць надрукаваны з першае бібліотэкі — „Рабінзон Крузо“ Д. Дэфоў, „Сэрца“ Э. Амічыса, „Бабуля“ Б. Немцовай, „Хата дзядзькі Тамаша“ Стоў, „Кніга джунглі“ Р.

Кіплінга, „Прыгоды Гука Фіна“ Марка Твэна; з другое бібліотэкі — „Дзюрдзі“ А. Арэшкі (Orzeszkowej), „Марына з Грубога“ Тэтмаера, „Сьляпы музыка“ Караленкі, Беларускія апавяданьні Рэйзіна, „Кароль вугаль“ Сынклера і інш.

---

# Новыя беларускія часопісы.

**„Заранка“**, ілюстраваная часопісь для дзяцей, выходзіць кніжкамі адзін раз у месяц. Рэдактар-Выдавец Л. Войцічыха. Часопіс мае 16 старонак кніжнага фармату ў вокладцы з харошым малюнкам.

Ужо адно імя рэдактаркі паказуе, што часопіс мусіць быць добрым. Грам. Л. Войцічыха аддана справе ўзгадаваньня беларускіх дзяцей і ўжо даўно лятуцела аб выдаваньню дзяцінага часопісу. І першая кніжка за сакавік апраўдала ўсе спадзяваньні. Кніжка ўважна і ўмела ўложана і дае беларускім дзеткам вельмі добрае чытаньне. Няхай-жа ня будзе беларускага дзіцяці, каторае ня чытала-б „Заранкі“! Цана на 3 мес. 1 зал., на год — 4 зал., асобны нумар 35 гр. Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. № 12 кв. 6. Можна такжа выпісаваць з беларускіх кнігарняў.

**„Саха“**, гаспадарскі папулярны часопіс. Падпісная плата да канца году 2 зал. 50 гр. Асобны нумар 20 гр. Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. сьв. Ганны (Анны) 2. Часопіс вельмі патрэбны гаспадаром-земляробам. Першы нумар за сакавік месяц ужо вышаў.

---

**„Беларускі дзень“**. Апрача беларускіх пачаў выходзіць польскі часопіс у беларускай мове „Беларускі дзень“. Мэты ~~ягоныя~~: адвярнуць сымпатыі беларускага сялянства ад Радавай Беларусі і прышчапіць яму любоў да Польшчы й палякоў. Дзеля гэтых мэтаў „Бел. дз.“ упорна ходаецца процi расейскага царызму і мае так-жа гаспадарскі й культурны адзьдзел, але гэтыя адзьдзелы, асабліва апошні, вельмі слабыя.

---

**Дасталі** як падпіску ад **проф. М. Салаўцова** ў Александрыі (Эгіпет) праз д-ра Я. Станкевіча **16 зал.**

# Аб выдавецтве „Родных Гоняў“.

Ужо даўно беларускае грамадзянства і ўвесь беларускі народ Заходняе Беларусі адчуваў вялікую патрэбу беларускага культурнага часопісу. Дзеля гэтага ўжо з паўгоду таму назад праяўлялася ў гэтым кірунку конкрэтная ініцыятыва беларускіх культурных дзеячоў. Адначасна зьявілася ў газэтах паведамленьне, што культурны часопіс беларускі мае выдаваць т-ва „Бел. Інст. Гасп. й Культуры“. Ініцыятары тады прыпынілі сваю дзейнасьць, чакаючы абяцанага Інстытутам часопісу. Але ня гледзячы на тое, што Інст. яшчэ некалькі разоў пастанаўляў і абвяшчаў выдаваньне культурнага часопісу, яго й дагэтуль нямашака.

Тады ініцыятары, не азіраючыся ні на кога, узнавілі сваю дзейнасьць і арганізавалі выдавецтва часопісу гэтак.

Хто дасьць у месяц на часопіс азначаную суму, той ёсьць сувыдаўцом яго. За складку, даючую паўнапраўны голас у выдавецтве, прынята 10 зал. у месяц, значыцца кожны сябра гэтулькі мае галасоў, колькі дзесяткоў залатовак дае (20 зал. — 2 гал., 30 зал. — 3 гал. і г. д.). Хто ня можа даць адзін 10 зал. у месяц, можа злажыцца з іншымі і тады разам будуць мець адзін голас.

Прапазыцыя ініцыятыўнай групы знайшла вельмі гарачае прыйімо сярод беларускага (а часткава й небеларускага) грамадзянства. Спадзяемся, што гэтак-жа горача яе сустрэне й провінцыя. У сакавіку можна ўжо было выдаць першую кніжку „Родных Гоняў“.

Дзеля нястачы месца грашавую справаздачу надрукуем у кніжцы 2-й. Тут толькі наказуем сувыдаўцом, што, на жаль, кошты выдавецтва аказаліся большымі, як мы спадзяваліся, і Рэдакцыя мае доўгу 300 зал. Каб аддаць гэты доўг і з красавіка выдаваць часопіс нормальна бяз доўгу, нам павінна памагчы беларускае грамадзянства. Заклікаем запісавацца ў сябры-сувыдаўцы, прысылаючы грошы й заявы ў Рэдакцыю „Родных Гоняў“, купляць і пашыраць „Родн. Гоні“. Хто будзе прадаваць „Р. Г.“, таму даем на прададзеных экз. спуск 30 проц. Першае кніжкі „Р. Г.“ пасылаем па некалькі экз. культурна-асьветным т-вам, пры гэтым просім, каб грошы за іх вярнулі. З другое кніжкі (выйдзе ў красавіку) „Родныя Гоні“ будзем пасылаць толькі тым, хто наперад прышле грошы. Пробных нумароў дарма Рэдакцыя ня мае магчымасьці пасылаць. Хто хоча дастаць пробны №, павінен прысласць у Рэдакцыю 75 гр.

ВЫДАВЕЦТВА Й РЭДАКЦЫЯ.

Выдавец-Рэдактар: **Вера Дзегцяранка**.